# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

2

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП(б)Б

1930

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ









Друкарня „БДВ". Заказ № 1097. У ліку 3000 экз. Галоўлітбел № 1050.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 2 | 31 студзеня 1930 г. | № 2

## РЭОРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫЙНАГА АПАРАТУ

Мы дасягнулі ў сучасны момант яшчэ нябывалых за ўсю гісторыю савецкай улады тэмпаў социялістычнай перабудовы краіны і ў галіне разьвіцьця прамысловасьці, у першую чаргу цяжкай, і ў галіне аграмаджаньня сельскай гаспадаркі, і ў галіне культурнай рэволюцыі, і перабудовы быту. У аснове гэтых тэмпаў ляжыць вялізная, яшчэ нябачаная ў гісторыі чалавецтва, якая прадаўжае расьці з кожным днём *актыўнасьць* рабочай клясы, вясковай беднаты і сярэдняга сялянства.

Гэтая актыўнасьць організуецца і накіроўваецца ўсім апаратам пролетарскай дыктатуры, на чале якой стаіць Комуністычная партыя, якая складае авангард рабочай клясы і якая пры дапамозе цэлага раду прыводных рамнёў (у першую чаргу саветаў і профсаюзаў) зьвязана з самымі шырокімі рабочымі і працоўнымі масамі.

Нашы тэмпы разьлічаны ня толькі на растучую актыўнасьць мас, але і на падвышэньне і палепшаньне якасьці работы таго апарату пролетарскай дыктатуры, які арганізуе і накіроўвае гэтую актыўнасьць, які пераводзіць яе на мову лічбаў росту прамысловай продукцыі, зьніжэньне сабекошту, падняцьце вытворчасьці працы, павышэньне рэальнай зарплаты, росту колгасаў і саўгасаў—усіх тых паказьнікаў, з якіх складаецца будаўніцтва социялізму ў нашай краіне. Вось таму мы так вельмі хутка і вельмі чотка адчуваем усе непаладкі, перабоі, недахопы, асечкі ў рабоце нашага апарату на недавыкананьні пляну, на зрывах гэтых плянаў па асобным прадпрыёмствам, раёнам у розных галінах нашага социялістычнага будаўніцтва. Таму палепшаньне, перабудова апарату пролетарскай дыктатуры — партыі, саветаў, профсаюзаў, коопэрацыі і г. д. прыцягвае да сябе такую ўвагу нашай партыі, бо гэта перабудова цесна зьвязана з пэрспэктывамі нашага социялістычнага наступу, з яго растучымі посьпехамі, з выкананьнем і перавыпаўненьнем тых плянаў, якія мы намецілі.

Савецкі, профэсыйны і інш. апараты зьяўляюцца прываднымі рамнямі, якія зьвязваюць найшырэйшыя пролетарскія і працоўныя масы з комуністычнай партыяй, якая адыгрывае ва усёй сыстэме пролетарскай дыктатуры кіраўнічую ролю. Вось чаму перабудова работы і апарату ўсёй сыстэмы пролетарскай

дыктатуры ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыоду, заключалася раней за ўсё ў перабудове шэрагаў партыі, аб якой гаварылася ў шэрагу дакумантаў апошняга часу (ліпеньская адозва 1928 г. і г. д.) і якая адбываецца зараз.

З гэтай перабудовай, у якой партыя пасьпела дабіцца значных посьпехаў, выцякае рэорганізацыя касьцяку нашай партыі — яе апарату, намечаная ў рашэньні ЦК.

Па якому напрамку павінна ісьці гэтая рэорганізацыя. У свой час трацкістыя спрабавалі шэльмаваць і ламаць наш партыйны апарат. Фактычна яны гэтым самым білі па партыі, па рабочай клясе, па дыктатуры пролетарыяту. Накіроўваемая фактычна клясавым ворагам рука трацкістых спрабавала паслабіць і паралізаваць цэнтральны кіруючы орган пролетарскай дыктатуры.

Партыя дала адпор замаху трацкістаў на яе апарат, які зьяўляецца лепшым інструмантам пролетарскай дыктатуры. Але партыя, зразумела, не адмовілася ад таго, каб далей паляпшаць і ўзмацняць гэты найлепшы інструмант, сыстаматычна падвышаць якасьць яго работы нараўне з растучымі і ўскладняючыміся задачамі социялістычнага будаўніцтва, нараўне з патрэбамі больш гнуткага ўсебаковага кіраўніцтва ўсімі прыводнымі рамнямі пролетарскай дыктатуры, нараўне з неабходнасьцю больш шырокага ахопу і больш глыбокага абслугоўваньня пролетарскіх і працоўных мас.

Асноўнае пытаньне для партыйнага апарату ў сучасны пэрыод социялістычнага будаўніцтва—гэта пытаньне аб кадрах, бо „проблема кадраў зьяўляецца цяпер... рашаючай проблемай социялістычнага будаўніцтва“ (Сталін). Мы маем відавочна вялізарны рост рабочай клясы, уцягваньне ўсё большых і большых мас яго ў сьвядомае і плянамернае социялістычнае будаўніцтва (ударныя брыгады, цэхі, галіны прамысловасьці), магутны колгасны рух, які ахапіў дзесяткі мільёнаў батракоў, беднякоў, сераднякоў. Мы маем колёсальнае капітальнае будаўніцтва, стварэньне новых гарадоў, новых прамысловых цэнтраў, цэлых галін прамысловасьці, ломку ўсяго старога вясковага ўкладу, стварэньне ў вялізарным маштабе фундаманту організаванага социялістычнага земляробства на зьмену дзесяткаў мільёнаў адсталых, распыленых, дробных і драбнейшых сялянскіх гаспадарак. Нам трэба тысячы і мільёны інжынэраў, тэхнікаў, майстраў, аграномаў, організатараў і кіраўнікоў савецкіх, профэсыянальных, партыйных самага рознакалёрнага маштабу і кваліфікацыі. Ня высунуўшы, не падабраўшы, не абучыўшы, ня выхаваўшы гэтых соцен тысяч і мільёнаў у карацейшы тэрмін, які нам вызначаны гісторыяй, мы ня справімся з тым размахам социялістычнага будаўніцтва, які маецца відавочна і які вырашае пытаньні аб нашай перамозе ня толькі ў маштабе Савецкага Саюзу.

Вось чаму пытаньне аб кадрах ніколі не стаяла перад партыяй з такою вастратою, як у сучасны момант. Гэтае пытаньне аб забясьпечаньні цьвёрдага комуністычнага кіраўніцтва ўсёй колёсальна разгорнутай работай социялістычнага будаўніцтва ва ўсіх яе формах і на ўсіх ступенях. Гэтае пытаньне аб больш шырокім і разам з тым больш глыбокім і органічным абхопе мас, якія ўцягнуты і яшчэ ўцягваюцца ў наша социялістычнае будаўніцтва, якое нельга ажыцьцявіць інакш, як праз моцныя кадры. Гэтае пытаньне падвышэньня якасьці кіруючай работы, непарыўна зьвязана з ускладненьнем задач социялістычнага будаўніцтва. Гэтае сапраўды пытаньне ўсіх пытаньняў.

І калі па ранейшай структуры партыйнага апарату з кадрамі, з іх падборам, высоўваньнем мог спраўляцца адзін аддзел партыйнага камітэту, дык зараз гэта задача (у сувязі з падрыхтоўкай кадраў) пастаўлена перад усімі аддзеламі. Гэта асноўная ідэя рэорганізацыі партыйнага апарату, якая падзяляецца зараз згодна апошнім рашэньням ЦК на чатыры асноўныя разьдзелы: організацыйна-інструктарскі, разьмеркавальны, культурны і пропаганды і масавай агітацыі. Кожны з гэтых разьдзелаў будзе падбіраць і высоўваць кадры па сваёй спэцыяльнасьці: арганізацыйна-інструктарскі—партыйныя; разьмеркавальны—савецкія, гаспадарчыя і профэсыйныя; культуры і пропаганды—культурныя (асьвета, друк і г. д.); аддзел масавай агітацыі будзе падбіраць работнікаў добраахвотных таварыстваў і інш.

Чым выклікана падзяленьне агітпропу на два самастойныя разьдзелы—культуры і прапаганды і масавай агітацыі. Вялізарным ростам нашай культурнай работы, разгортваньнем нашай наркамасьветаўскай сыстэмы, друку, прапаганды ленінізму—з другога боку; вялізарным пашырэньнем масавай работы, палітычных кампаній і тых патрабаваньняў, якія гэтая работа прад'яўляе да партыі, калі ў соцыялістычнае будаўніцтва ўцягваюцца новыя дзесяткі мільёнаў пролетарыяў і працоўных,—з другога.

Чаму перастаюць існаваць самастойныя аддзелы па працы ў вёсцы і аддзел работніц. Вядома, не таму, што партыя паварочваецца сьпіною да адпаведнай работы, а толькі таму, што яе размах і тэмп ужо далёка перарасьлі аддзельскія рамкі. На прыкладзе работы ў вёсцы гэта відаць ясьней за ўсё. Ці-ж партыя за апошнія гады стала менш займацца вёскай. Ласьня пытаньні хлебанарыхтовак, вырашэньне зернявой проблемы, пытаньне проблемы жывёлагадоўлі, правядзеньне суцэльнай колектывізацыі не заставілі нашы партыйныя організацыі акунуцца ў самую гушчу вясковага жыцьця. Ласьня не адышоў у беззваротнае мінулае той пэрыод, калі на адным канцавосьсі для нашых партыйных організацый стаяў горад з яго соцыялістычнай прамысловасьцю і рабочай клясай, а на другім канцавосьсі—вёска з дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркай.

Вядома, у цяперашніх умовах самастойныя аддзелы па рабоце ў вёсцы, у свой час створаныя з мэтаю павялічыць увагу партыі да вёскі, зусім зжылі сябе.

Нельга сказаць пра работу сярод работніц і сялянак, каб яна за апошні час так шырока і пладавіта разгарнулася, як работа ў вёсцы. На гэтым вучастку мы яшчэ не дасяглі неабходнага пералому. Але мы цесна падыйшлі да яго. Без рашучых посьпехаў па ахопу партыяй, профсаюзамі, саветамі жанчын-работніц і сялянак у бліжэйшы час мы не забясьпечым пагалоўнага ўцягненьня рабочай клясы ў соцыялістычнае спаборніцтва, выкананьне нашых вытворчых програм, правядзеньне колектывізацыі ў вёсцы, рашучага палепшаньня матэрыяльных і бытавых умоў рабочай клясы.

Гэта ясна да вочавідкаў. Але гэтулькі-ж відавочна, што адны жанаддзелы пры вельмі пасыўных адносінах да работы сярод жанчын з боку парторганізацый цалкам, саветаў і профсаюзаў неабходнага пералому ў гэтай рабоце дасягнуць ня змогуць. Яго можна будзе дасягнуць толькі агульнымі ўмовамі ўсіх нашых організацый.

Бальшавікі ніколі не хварэлі недаацэнкай партыйнага апарату іменна таму нікому ў сьвеце не ўдавалася стварыць такую магутную, організаваную партыю, якую маем мы. Але бальшавікі ніколі не хварэлі таксама фэцішызацыяй форм апарату і заўсёды зьмянялі іх, калі гэта дыктавалася інтарэсамі работы, клясавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва, ахопу мас, кіраўніцтва масамі.

Зразумела, і цяперашняя рэорганізацыя форм партыйнага апарату ні ў якім выпадку ня можа насіць формальнага характару, ня зможа зьвясьціся да перасадкі людзей і да зьмены шыльд. Дыктуючыся патрэбамі жыцьця, нашага разгортваючагася соцыялістычнага наступленьня, яна павінна быць органічна зьвязана з перабудовай усяго зьместу работы партыйнага апарату і ўсёй партыі, якая праводзіцца за апошні час, з пашырэньнем размаху гэтай работы і павышэньнем яе якасьці.

Пры дапамозе гэтай рэорганізацыі мы павінны раней усяго рашуча пайсьці наперад да разьвязаньня проблемы аб кіруючых кадрах разгортваючагася соцыялістычнага будаўніцтва, якая зьяўляецца асноўнай і рашаючай проблемай на яго цяперашнім этапе. **(„Правда“).**

# Аб рэарганізацыі апарату ЦК УсеКП(б)

## *Пастанова ЦК УсеКП(б)*

І. Патрэбнасьць рэарганізацыі апарату ЦК і апарату мясцовых партарганізацый тлумачыцца, перш за ўсё, вялізным ускладненьнем задач парткіраўніцтва ва ўмовах рэканструкцыйнага пэрыяду, галінамі дзяржаўнай, гаспадарчай, партыйнай, культурнай і прафэсыянальнай работы, якія рознабакова разьвіліся. Задача падбору і падрыхтоўкі кадраў для ўсіх галін работы пастаўлена партыяй ва ўсёй вострасьці, як рашаючая задача. Побач з гэтым разгортваньне творчай ініцыятывы мас—сацыялістычнае спаборніцтва, ударныя брыгады, калектывізацыя, шырокі размах самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі—патрабуе далейшага паляпшэньня работы партыйнага апарату і выпрацоўкі новых форм і мэтадаў работы на мясцох.

ЦК прызнае патрэбным рэарганізаваць апарат ЦК і мясцовых арганізацый такім чынам, каб ён з посьпехам вырашыў новыя складаныя задачы, асабліва, задачы падбору, разьмеркаваньня і падрыхтоўкі кадраў. Пры гэтым трэба спрасьціць і скараціць апарат, дыфэрэнцыяваўшы яго работу па функцыянальнай адзнацы.

ІІ. 1. „Ограспред", які аб'ядвае падбор і разьмеркаваньне кадраў па ўсіх галінах і кіраўніцтва арганізацыйна-партыйнай работай, разьбіваецца на два самастойныя аддзелы: а) на арганізацыйна-інструктарскі аддзел і б) на аддзел разьмеркаваньня адміністрацыйна-гаспадарчых і прафсаюзных кадраў. Што датычыць разьмеркаваньня кадраў работнікаў іншых галін работы, яно ажыцьцяўляецца іншымі аддзеламі ЦК (аддзел культуры і прапаганды, аддзел агітацыі і масавых кампаній і г. д.).

2. Агітпроп, які аб'ядвае масавую агітацыю і правядзеньне масавых кампаній, кіраўніцтва культурным будаўніцтвам і народнай асьветай, кіраўніцтва прэсай, прапагандай і партыйнай асьветай, разьбіваецца на два самастойныя аддзелы: а) аддзел культуры і прапаганды і б) аддзел агітацыі і масавых кампаній.

3. Разгорнуты калгасны рух, арганізацыя саўгасаў, стварэньне саюзнага Наркамзему, пасылка ў вёску вялікае колькасьці парт. і прафработнікаў у сувязі з правядзеньнем дзьвёх збожжазагатоўчых кампаній, устанаўленьне новых форм сувязі з вёскай праз рабочыя брыгады, палепшаньне работы шэфскіх таварыстваў—настолькі ўзмацнілі нашы арганізацыйныя магчымасьці самой вёскі і цесна зьвязалі работу ў горадзе і ў вёсцы, што адпадае патрэбнасьць падзяленьня ўсёй работы партыі на работу ў горадзе і ў вёсцы. У сувязі з гэтым зьнішчаецца аддзел ЦК па рабоце ў вёсцы з тым, каб кіраўніцтва работай у вёсцы было ўзмоцнена з боку адпаведных аддзелаў ЦК: па лініі ўнутрыпартыйнай—арганізацыйна-інструктарскім, па лініі масавых кампаній—аддзелам агітацыі і масавых кампаній і г. д.

4. З прычыны таго, што работа сярод работніц і сялянак набывае ў цяперашні пэрыяд важнейшае значэньне, яна павінна весьціся ўсімі аддзеламі ЦК. Асобная агітацыйна-масавая работа сярод жанчын павінна працягвацца, галоўным чынам, пад кутом погляду пасьпяховага ажыцьцяўленьня ўсіх масавых кампаній, якія партыя арганізуе ў горадзе і ў вёсцы. У сувязі з гэтым жанаддзел рэарганізуецца ў жаночы сэктар аддзелу агітацыі і масавых кампаній.

5. Інфармацыйны і статыстычны аддзелы ўліваюцца ў аргінструктарскі аддзел. Такім чынам, замест 9 аддзелаў устанаўляецца 7 аддзелаў з адпаведным скарачэньнем апарату.

III. Устанавіць наступную схэму пабудовы апарату ЦК:

1. Арганізацыйна-інструктарскі аддзел, згрупаваўшы ў ім кіраўніцтва ўсёй арганізацыйна-партыйнай работай, абагуленьне практыкі партыйнага будаўніцтва (разгортваньне самакрытыкі і г. д.), інструктаваньне і праверку работы мясцовых партарганізацый і бягучую сувязь з імі, інфармацыю, статыстыку, падбор і разьмеркаваньне кадраў партыйнага апарату.

2. Разьмеркаваўчы аддзел, згрупаваўшы ў ім разьмеркаваньне, падбор і падрыхтоўку ўсіх адміністрацыйна-гаспадарчых і прафсаюзных кадраў, выключаючы кадры тых галін работы, якімі ведаюць іншыя аддзелы ЦК (Аддзел прапаганды і культуры, аргінструктарскі аддзел і інш.).

3. Аддзел культуры і прапаганды, згрупаваўшы ў ім кіраўніцтва культурным будаўніцтвам, народнай асьветай, прэсай, пастаноўкай прапаганды марксызму-ленінізму і ідэёва-бальшавіцкага выхаваньня членаў партыі, падбор і разьмеркаваньне кадраў па лініі народнае асьветы, культурных установ, прэсы, камунівэрсытэтаў і г. д.

4. Аддзел агітацыі і масавых кампаній, згрупаваўшы ў ім пастаноўку масавай агітацыі, арганізацыю і кіраўніцтва ўсімі масавымі кампаніямі, як кароткачасовымі, так і разьлічанымі на больш доўгія тэрміны (кампаніі перавыбараў—савецкія, прафсаюзныя і г. д., сацыялістычнае спаборніцтва, ударныя брыгады, калдагаворная кампанія, зьніжэньне сабекошту, уздым прадукцыйнасьці працы, калектывізацыя, пасеўная кампанія, хлебазагатоўкі і інш.), нагляд за дзейнасьцю рознага роду добраахвотных таварыстваў, падбор і разьмеркаваньне адпаведных кадраў. У склад гэтага аддзелу ўваходзіць сэктар па масавай рабоце сярод работніц і сялянак.

5. Сакрэтны аддзел ЦК.

6. Кіраўніцтва справамі.

7. Інстытут Леніна.

IV. 1. У адпаведнасьці з рэарганізацыяй павінны быць перараьзмеркаваны і ўстаноўлены новыя штаты па аддзелах ЦК, прычым пры рэарганізацыі трэба зусім аслабаніць аддзелы ад свайго тэхнічнага апарату, стварыўшы адзіны тэхнічны апарат ЦК.

2. Аддзелы ЦК па падборы і разьмеркаваньні кадраў і адпаведныя сэктары разьмеркавальнага аддзелу вядуць работу ня толькі па падборы і разьмеркаваньні наяўных кадраў, але адказваюць і арганізуюць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў як тэхнічных, так і кіраўнічых, прычым аддзелы ЦК, згрупоўваючыся на ґалоўных і асноўных камандных пазыцыях, павінны ў большай меры ўзмацніць кіраўніцтва вучотна-разьмеркавальнымі аддзеламі ведамстваў, ускладаючы на іх папярэднюю падрыхтоўчую работу.

3. Інстытут інструктароў ЦК павінен таксама спэцыялізавацца па адпаведных галінах работы з тым, што $^1/_3$ інструктароў (5—6 чалавек) застаецца на пытаньнях агульнага інструктаваньня і праверкі.

4. Усе аддзелы зьвязваюць сваю работу з праверкай выкананьня дырэктыў ЦК па адпаведных пытаньнях, увязваючы гэту работу з ЦКК-РСІ. Гэта адносіцца і да праверкі работы мясцовых арганізацый, і да пытаньняў культуры, асьветы, да пытаньняў непасрэдна партыйнай работы, а таксама да пытаньняў савецкіх, гаспадарчых і г. д.

V. 1. ЦК сьцьвярджае пастанову нарады прадстаўнікоў нацыянальных ЦК, краявых, абласных і акруговых камітэтаў ад 13-І аб рэарганізацыі апарату нацыянальных ЦК, краявых, абласных і акруговых камітэтаў па схэме рэарганізацыі апарату ЦК.

2. Парткомам мяркуецца правесьці рэарганізацыю свайго апарату ў 2-тыднёвы тэрмін.

3. Аргбюро даручаецца правесьці рэарганізацыю апарату гаррайкомаў, сельрайкомаў і работы партячэек у адпаведнасьці з прынятай рэарганізацыяй партапарату.

# АГІТАЦЫЯ І ПРАПАГАНДА

І. Цыунчык

## Як ідзе завочная партвучоба актыву

Завочная партвучоба актыву ў гэтым годзе разгортваецца вельмі марудна. Камплектаваньне сеткі завочных курсаў ідзе са значным спазьненьнем. Мы да апошняга часу ня выканалі раскладкі, дадзенай Бюро ЦК КПБ (глядзі „Зьвязда“ ад 23-Х—29 г.)—і асабліва нездавальняюць нас вынікі ўкамплектаваньня па курсах партактыву пры Ўсебеларускай саўпартшколе, якая абхапляе нізавы, ячэйковы партактыў. Апрача таго, што райкомы нявыканалі цалкам раскладкі (залічана 500 замест 600 вызначаных ЦК)—у складзе прынятых маецца ўсяго 168 сакратароў партячэек, 65 членаў бюро, 42 профработнікі, 25 апоргаў, 29 аргработнікаў і 28 коопэратыўных работнікаў. Прыблізна такое-ж становішча і на завочных курсах партактыву пры Комунівэрсытэце Беларусі. Мінімальная раскладка выканана ўсяго на 93,5 проц. У складзе прынятых маецца сакратароў райкомаў КПБ—50, сакратароў буйных вытворчых ячэек да 60, сакратароў РК камсамолу 31, загадчыкаў АПА і прапагандыстых 41, жанарганізатараў 32, старшыні РВК—32, коопэратыўных работнікаў 18, вайсковага партактыву 40.

*Такім чынам мы бачым, што некаторыя групы ячэйковага і раённага актыву абхоплены вельмі слаба, асабліва савецкі-профэсійны, камсамольскі і палітасьветны актыў.* Вельмі мала ўцягнута калгасьнікаў—7 таварышоў, а таксама і прапагандыстых. Як відаць партворганы, пачынаючы з бюро партячэек недастаткова зьвярнулі ўвагі на пастанову ЦК УсеКП, дзе сказана:

> „ЦК абавязвае парторганізацыі правесьці вучот усіх груп партактыву, якія маюць патрэбы ў тэорэтычнай вучобе, разьмяркаваць іх па асобным відам завочнага навучаньня, арганізаваць сыстэматычную дапамогу завочнікам... і ўстанавіць сыстэматычнае кіраўніцтва работай завочнікаў, вядучы барацьбу з выпадкамі адхіленьня ад марксыцка-ленінскай вучобы, як з парушэньнем партыйнай дырэктывы. Тое-ж вызначана і ў пастанове „аб кадрах“ студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

Неабходна ўсім партворганам зараз-жа правесьці праверку таго, што зроблена ў выкананьне паказаных дырэктыў. Бюро партячэек і іншых парткамітэтаў павінны завесьці грунтоўны вучот свайго актыву і пераглядзець ход вучобы апошняга. На бюро партячэек неабходна ўжо зараз паставіць даклады паасобных таварышоў, залічаных на курсы, праверыць, як імі выконваюцца заданьні курсаў, што перашкаджае іх вучобе. Правесьці дадатковую пасылку на завочныя курсы—або ў іншыя формы вучобы тых таварышоў, якія да гэтага часу ня ўцягнуты.

Далей патрэбна адзначыць, што і вучоба тых, хто ўжо даўно залічан на курсы ідзе вельмі кепска. Пераважная большасьць таварышоў амаль зусім непрацуе. Вельмі доўга ідзе раскачка, а калі пачынаюць працаваць — дык тэмп вучобы вельмі нездавальняючы. У справе завочнай вучобы мы далёка адстаем ад тэмпаў бягучага жыцьця. Тут таксама патрэбна ўвага партарганізацый. Неабходна падштурхоўваць паасобных таварышоў—і гэта справа нізавых партарганізацый, *бо ў сыстэме завочнага навучаньня—непасрэднае кіраўніцтва вельмі складаная рэч.*

У лютым месяцу па акругах мяркуецца правесьці кароткатэрміновыя канфэрэнцыі слухачоў курсаў—на якіх будуць вырашаны пытаньні арганізацыйнага і мэтодычнага зьместу. Неабходна, каб кожны завочнік падрыхтаваўся да гэтых канфэрэнцый, добра азнаёміўся з мат'ялам, які высланы курсамі — для

высьвятленьня спрэчных — неяскравых момантаў у сваёй вучобе.

Тэмп партвучобы ў значнай меры залежыць і ад таго, што слухачы курсаў ня ўмеюць знайсьці часу для вучобы. На гэтую тэму курсы штодзенна атрымоўваюць шэраг лістоў, дзе таварышы скардзяцца на адсутнічаньне часу. Для прыкладу прыводзім ліст аднаго сакратара райкому Віцебскай акругі, які піша:

> „Паведемляю, што прапрацоўваць матар'ял ня змог па аднэй прычыне—празьмернай перагрузкі...
> Трэба сказаць як ёсьць, што я газэты не магу чытаць рэгулярна, па тры месяцы ў баню не хаджу".

У далейшым аўтар лічыць, што таксама будзе шмат работы, вучыцца ня ўдасца, а таму просіць выключыць са складу слухачоў, але-ж адначасова заўважвае, што

*„ня лічыце мяне тым таварышом, які не жадае вучыцца. Вучыцца трэба і ёсьць жаданьне, але-ж умовы не даюць.."*

Што можна сказаць па паказальнаму лісту? Папершае—як відаць—на мясцох ніякіх практычных мер ня ўжыта да выкананьня дырэктывы бюро ЦК КПБ аб вучобе партактыву:

> „Бюро ЦК падкрэсьлівае, што пасьпяховасьць усёй работы... у значнай меры залежыць ад таго, у якой ступені асобным парт-арганізацыям удасца стварыць адпаведныя ўмовы для вучобы і прапануе ўсім партарганізацыям безадкладна ажыцьцявіць рэальныя мерапрыемствы па рэгуляваньню рабочага часу актыву - кіруючыся верасьнёўскай пастановай ЦК УсеКП".

Гэта значыць патрэбна забясьпечыць за партактывам, які займаецца тры разы ў тыдзень рабочы дзень ня больш як 8 гадзін, прадстаўляць дадатковыя дні выхадныя для вучобы. Як нам вядома—шэраг партыйных камітэтаў таксама вынесьлі аналёгічныя пастановы—але-ж з ажыцьцяўленьнем гэтых пастаноў справа абстаіць дрэнна. І трэба проста сказаць, што ў першую чаргу гэта залежыць ад саміх работнікаў раённых і нізавых партворганаў. Зразумела, што на таго таварыша, ліст якога мы прыводзілі якраз партыяй ускладзена задача стварэньня ўмоў, неабходных для вучобы. Ну, а раз таварыш ня справіўся, нават з тым, каб для сябе знайсьці час для вучобы—вельмі дрэнна, яшчэ горш будзе з дапамогаю другім таварышам. Партыя ведае аб тым, што яе актыў зараз вельмі перагружан. Мы адчуваем паўсюды недахоп кадраў. *Шпаркі тэмп сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе напружанасьці—але-ж адначасова патрабуе і большай узброенасьці тэорэтычнымі ведамі, зброяй марксызму-ленінізму. Партыя ставіць задачу перад сваім актывам аб неабходнасьці адпаведнага рэгуляваньня свайго часу—а перад партворганамі—аб забясьпячэньні магчымасьці для сыстэматычнай і глыбокай вучобы. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы —важнейшы абавязак усіх партарганізацый.*

Наогул неабходна партарганізацыям неяк перабудаваць сваю работу ў напрамку арганізацыі і садзейнічаньня завочнай форме партасьветы. У прыватнасьці неабходна рашуча павярнуць да непасрэднага ўдзелу ў завочным навучаньні партгабінэты пры акруговых камітэтах КП(б)Б. Завочная партасьвета зараз на Беларусі значна пашырылася. Мы зараз маем па Усебеларускай Завочнай саўпартшколе да 600 слухачоў (разам з мінулым наборам), па Завочнаму Камвузу—350 слухачоў і курсам партактыву—400 (разам з мінулагоднім наборам). Такім чынам мы ўжо маем каля паўтара-тысячную армію завочнікаў і відавочным становіцца неабходнасьць большага кіраўніцтва, большага арганізацыйнага абхвату і ўдзелу з боку ўсіх партарганізацый. Што-ж патрабуецца ад партгабінэтаў?

Перш-на-перш апошні павінен вясьці вучот, ведаць усіх завочнікаў свае акругі. Неабходна ўстанавіць з імі жывую сувязь і дапамагаць завочнікам як з боку мэтадычнага аўладаньня матар'ялам, так і кансультацыяй па зьместу вучобы і падручнікамі—літаратурай. Асабліва неабходна дапамога апошнім. Як гэта ня дзіка, але-ж нават у цэнтральным партгабінэце ў Менску нельга завочніку атрымаць падручнік па палітэканоміі, гісторыі. У партыйнай бібліатэцы таксама ёсьць мала—1—2 кніжкі. Быў нават такі выпадак, што загадчык партгабінэтам не пасароміўся выдаць завочніку, які да яго зьвярнуўся, даведку аб тым, што ён абслужыць завочніка кніжкай ня можа, бо ёсьць 1—2 кніжкі і яны скарыстоўваюцца толькі ў габінэце.

Патрэбна рашуча перабудаваць работу габінэтаў. Апошнія павінны набыць максымальную колькасьць літаратуры, патрэбнай завочнікам, абавязкова снабжаць завочнікаў кнігамі. Гэтае і толькі гэтае сапраўды зьвяжа завочніка з габінэтам. А там, дзе партгабінэтаў няма—такія абавязкі павінны быць ускладзены на агітпропы Райкомаў і буйных ячэек. Партячэйкі павінны таксама зацікавіцца справай забясьпечаньня завочнікаў літаратурай. Шэраг кніжак—вельмі патрэбных завочнікам у прадажы няма. У той час многія таварышы маюць уласныя бібліятэкі—якія не скарыстоўваюцца. Далей належыць арганізаваць абмен кніжак самымі завочнікамі, каб паменшыць выдаткі на літаратуру. АПА райкомаў павінны пэрыядычна склікаць завочнікаў на нарады, абгаварваць з імі становішча вучобы, дапамагаць установам, якія кіруюць завочнай партасьветнай, памятаючы, што толькі агульнымі сіламі магчыма дабіцца посьпехаў.

*У бягучым годзе, згодна пастановы бюро ЦК КП(б)Б неабходна правесьці канфэрэнцыі завочнікаў—па завочным курсам пры Усебеларускай СПШ на 300—400 асоб і па Камвузу на 350 асоб. Канфэрэнцыі праводзяцца з мэтай падагульваньня самастойнай вучобы завочнікаў.* Курсы прад'яўляюць да завочнікаў мінімум самастойнай работы, для таго, каб на канфэрэнцыі магчыма была больш паглыблена паўтарыць, замацаваць пройдзенае. Але-ж без самастойнай папярэдняй вучобы няма ніякага сэнсу склікаць канфэрэнцыі, бо яны будуць даваць тыя-ж вынікі, што і розныя кароткатэрміновыя курсы ў мінулым. Неабходна павысіць адказнасьць слухачоў-завочнікаў за сваю вучобу. Дабіцца сапраўднага выкананьня запатрабаваньняў курсаў. Дабіцца большага тэмпу ў вучобе, каб ісьці поруч з магутным тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва.

„ЦК ставіць перад партарганізацыямі задачу дабіцца рашучага перал му ў справе тэарытычнай перападрыхтоўкі кадраў партактыву. Сыстэматычная самастойная работа над павышэньнем свайго тэорытычнага ўзроўню павінна быць важнейшым абавязкам усяго партыйнага актыву і асабліва кожнага камуніста, які праводзіць кіруючую работу" (з пастановы ЦК УсеКП, Агульнымі сіламі, перамагая цяжкасьці—выканаем гэтую дырэктыву.

# АБ СТАНОВІШЧЫ ТЭАРЫТЫЧНАЙ ВУЧОБЫ

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б

Сакратарыят ЦК канстатуе невыстарчальнасьць выкананьня мясцовымі партарганізацыямі дырэктыў ЦК аб „стварэньні наўкола пытаньняў тэарытычнай вучобы актыву адпаведнай партыйнаграмадзкай думкі, прыцягненьні да гэтай справы ўвагі ўсёй партарганізацыі і стварэньня патрэбных умоў для вучобы" (гл. „Зьвязда" ад 23-X 1929 г.).

Патрэбнага рашучага пералому ў тэарытычнай вучобе актыву яшчэ няма.

Асьвятленьне пытаньняў гэтай вучобы ў друку было яўна невыстарчальнае. Растлумачальная работа арганізацыямі праведзена слаба. Колькі-небудзь эфэктыўныя мерапрыемствы па стварэньні спрыяючых умоў для вучобы актыву месцамі да гэтага часу яшчэ не рэалізаваны. Кантроль за вучобай асобных таварышоў не праводзіўся.

Асабліва нездавальняюча абстаіць справа з уцягненьнем у марксыцка-ленінскую тэарытычную вучобу акруговага і цэнтральнага кіраўнічага партактыву.

Падкрэсьліваючы поўную недапушчальнасьць такога становішча з вучобай актыву, Сакратарыят ЦК прапануе ўсім партарганізацыям ужыць энэргічныя захады да карэннага паляпшэньня пастаноўкі гэтай вучобы, у прыватнасьці:

1. Бюро АК і РК правесьці да пачатку лютага ўсебаковую праверку выкананьня дырэктыў аб вучобе актыву (гл. „Праўду" ад 15-IX 1929 г., „Зьвязда" ад 23-X і 15-IX 1929 г.).

2. Арганізаваць у гэты-ж тэрмін праз бюро ячэек індывідуальную праверку вучобы актывістых, выходзячы з пастановы ЦК УсеКП(б) „змагацца з выпадковымі ўхіленьнямі ад марксыцка-ленінскай вучобы, як з парушэньнем партыйнай дырэктывы“ (гл. „Правда“ ад 15-IX 1929 г.).

3. Адзначаючы, што раскладка, даная ЦК КП(б)Б на акругах па камплектаваньні завочных курсаў пры Гомельскай саўпартшколе і Камвузе, была мінімальнай. Сакратарыят ЦК прапануе акругкомам ня толькі выканаць (тым, якія яшчэ да гэтага не зрабілі) у найбольш кароткі тэрмін паказальную раскладку, але перавысіць яе (улічваючы няўхільнасьць вялікага проценту адсеву), зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў завочную вучобу тых катэгорый актыву, якія слаба ўцягнуты ў яе.

4. У мэтах стымуляваньня работы завочнікаў, завочным курсам, партактыву пры ўсебеларускай СПШ і Камвузе, правесьці па акругах у лютым-сакавіку месяцы кароткатэрміновыя трохдзенныя ўводныя канфэрэнцыі слухачоў курсаў.

5. Даручыць АПА ЦК увесьці ў плянавае рэчышча абслугоўваньне партактыву акруговых цэнтраў кваліфікаванымі лектарамі, навуковымі працаўнікамі з Менску.

6. Па лініі кіраўнічага рэспубліканскага і акруговага актыву:

а) Абавязаць усіх таварышоў, што ўваходзяць у гэту катэгорыю актыву, у месячны тэрмін уключыцца ў якую-небудзь з існуючых форм завочнага навучаньня: камвуз, курсы марксызму, інстытут чырвонай прафэсуры, інстытут гісторыі пры ЦК КП(б)Б, прамакадэмія і г. д.

б) АПА ЦК арганізаваць праверку выконаньня асобнымі таварышамі гэтай пастановы.

в) Арганізаваць для цэнтральнага кіраўнічага актыву пэрыядычныя лекцыі па актуальных праблемах марксызму-ленінізму з прыцягненьнем для чытаньня гэтых лекцый сіл з Масквы.

г) Ужыць захады да максымальнага ўцягненьня кіраўнічага цэнтральнага і акруговага актыву ў работу марксыцкіх таварystваў.

д) Стварыць пры Камвузе кансультацыйнае бюро для абслугоўваньня завочнікаў вышэйшай сеткай вучобы актыву.

7. У мэтах стварэньня патрэбных умоў для вучобы Сакратарыят ЦК прапануе забясьпечыць за партактывам, які сыстэматычна займаецца завочнай марксыцка-ленінскай вучобай:

а) Усямернае аслабаненьне ад нагрузкі, ня зьвязанай з асноўнай работай.

б) Фактычнае скарыстаньне дзён адпачынку і дзён вучобы.

в) Чатыры разы ў дзесяціднёўку рабочы дзень ня больш, як 8 гадзін. АПАД ЦК скласьці пэрсанальны сьпіс тт., якім павінен быць забясьпечаны, „звыш звычайнага дня адпачынку, яшчэ 2-3 вольныя ад працы дні ў месяц выключна для самаадукацыі і працы над сабою“ (пастанова ЦК УсеКП(б), або адзін раз у год дадатковы водпуск спэцыяльна для вучобы.

8. Вялікую ролю ў справе належнай арганізацыі тэарытычнай вучобы актыву павінен адыграць друк. Сакратарыят ЦК прапануе органам друку значна больш, чым гэта наглядалася да гэтага часу, зьвярнуць увагу на асьвятленьне пытаньняў вучобы актыву (растлумачэньне значэньня тэарытычнай вучобы ў сучасных умовах, абгаварэньне лепшых форм і мэтадаў вучобы, крытыка недахопаў яе арганізацыі, барацьба з выпадкамі ўхіленьня ад вучобы і г. д.).

**Уся КП(б)Б—на чале культурнага будаўніцтва.**

А. Некрашэвіч

# У паход за пралетарскую культуру

ЦК ЛКСМБ апавясьціў трохмесячнік беларускае пролетарскае культуры і культуры нацменьшасьцяй. Гэты паход камсамолу за культуру прыпадае на пэрыод асабліва абвостранай клясавай барацьбы, кулак, усімі спосабамі будзе абараняць свае позыцыі як на фронце экономічным, так і на фронце культуры. Вораг на гэтым вучастку барацьбы так як і на іншых вучастках будзе весьці самую ўпорную абарону сваіх пазыцый. Вось чаму першай і асноўной задачай трохмесячніку трэба лічыць змаганьне за ідэолёгічную чыстату ўсяе нашае культуры і мастацтва, барацьбу са ўсімі шкоднымі пролетарскай дыктатуры і варожымі яго вучэньню марксызму-ленінізму тэорыямі і тэорыйкамі. Другой асаблівасьцю пэрыоду, у які распачаты трохмесячнік, гэта ў пэўнай меры ножны паміж нашым шпаркім будаўніцтвам соцыялістычнае гаспадаркі ў горадзе і на вёсцы і культурным будаўніцтвам. На XV зьезьдзе УсеКП(б) было азначана:

> „Што ў нас культарнае разьвіцьцё значна адстае ад нашага гаспадарчага разьвіцьця і падвышэньня жыцьцёвага ўзроўню рабочых і сялян, што ажыцьцяўленьне індустрыялізацыі і ўздым гаспадаркі надалей ня могуць адбывацца без роўналежнага ўздыму культурнага ўзроўню краю".

Гэта заўвага цалкам і поўнасьцю адносіцца і да БССР, дзе ў выніку ранейшага побач з соцыяльным і нацыянальна-культурнага ўціску царызму культурная адсталасьць працоўных значна большая, чымся ў іншых савецкіх рэспубліках. Значыць другой задачай, ня менш важнай, чымся першая зьяўляецца мобілізацыя ўвагі ўсяе пролетарскае грамадзкасьці да пытаньняў культурнага будаўніцтва.

Рэч вядомая, што без уцягненьня ў справу культурнага будаўніцтва шырокіх мас рабочых і працоўнага сялянства, ня можа быць і размовы аб больш-менш сталым і сур'ёзным уздыме культурнага ўзроўню краіны. А таму *барацьба за прыцягненьне шырокіх працоўных мас да культурнага будаўніцтва, за набліжэньне ўсяе культуры да іх, зьяўляецца трэцяй задачай культурнага паходу камсамолу.*

Неабходнасьць высокіх, адпаведна з гаспадарчым будаўніцтвам, тэмпаў у будаўніцтве культуры, востра ставяць проблему кадраў для культурнага фронту і ў першую чаргу і пераважна вылучэньне кадраў з пролетарскага асяродку. Пад знакам выкананьня гэтай такой актуальнай на сёняшні дзень задачы павінен праходзіць трохмесячнік.

І, нарэшце, побач і аднначасова з рашучаю барацьбою за пролетарскі зьмест культуры, ставіцца задача і будаўніцтва яе ў нацыянальных формах, больш зразумелых для шырокіх колаў працоўных.

Такія грандыёзныя задачы, якія бярэ на сябе Ленінскі комсамол, апавяшчаючы трохмесячнік, вымагаюць ад партыйнае організацыі вельмі ўважлівага кіраўніцтва гэтым паходам за культуру, а таксама і непасрэднага і актыўнага ўдзелу ў ім.

> Такі паход ня проста культурніцкая кампанія, а гэта рашучы наступ на бяскультур'е, што перашкаджае нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву, гэта рашучая барацьба за пролетарскі зьмест культуры. Гэта, такім чынам, важнейшая палітычная кампанія.

І партыйныя організацыі ня могуць застацца ў баку ад яе. Не аднімаючы ініцыятывы ад комсамолу, кожная партыйная організацыя, кожная партыйная ячэйка павінна зараз-жа прыняць актыўны ўдзел у трохмесячніку, забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва ў правядзеньні яго. Недаацэнка важнасьці распачатага

комсамолам мерапрыемства будзе зьяўляцца буйнай палітычнай памылкай, а неахайны падыход да рэалізацыі яго перашкодзіць нормальнаму ходу працы.

КП(б)Б і яе ЦК шмат займаліся і займаюцца пытаньнямі нацыянальнае культуры. Здаецца, няма ніводнага больш - менш значнага партыйнага дакуманту, дзе-б гэтае пытаньне не займала належнага месца.

Трохмесячнік павінен зьявіцца для партыйнае арганізацыі акрамя непасрэднага кіраўніцтва і ўдзелу ў ім таксама і трохмесячнікам праверкі *кожнай партыйнай ячэйкай асноўных дырэктыў партыі ў галіне культурнага будаўніцтва.*

Пры абвостранай клясавай барацьбе ў краіне асаблівую актуальнасьць набывае праверка лёзунгу пленуму ЦК КП(б)Б

„Уся КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва". На працягу трохмесячніка кожная ячэйка павінна праверыць наколькі поўна яна рэалізавала гэты лёзунг і наколькі поўна і па-бальшавіцкі кравала яна культурным будаўніцтвам у раёне сваёй дзейнасьці, наколькі своечасова і рашуча давала адпор усялякім скрыўленьням клясавае лініі ў культурным будаўніцтве, наколькі была мобілізавана актыўнасьць мас для барацьбы за культуру.

Як ужо было сказана вышэй, у нашых умовах патрэбна пролетарская культура ў нацыянальных формах. Аднэй з адзнак нацыянальнае культуры зьяўляецца яе мова. *Аўладаць мовай гэта значыць ва ўпор падыйсьці да аваладаньня нацыянальнай культуры.*

Такім чынам лёзунг *„Уся КП(б) павінна ўмець гаворыць пабеларуску"* акрамя свайго надзвычайна важнага палітычнага значаньня ў даным выпадку адзначае і ўзмацненьне кіраўніцтва парт-арганізацыі беларускай культурай, дзе за апошні час былі досыць такі значныя варожыя прарывы. Таму аднэй з конкрэтных задач, што стаяць перад парт-арганізацыямі стаіць праверка выкананьня гэтага лёзунгу і асабліва рабочай часткай нашае партыі.

З конкрэтных задач, што стаяць перад парторганізацыямі ў зьвязку з трохмесячнікам патрэбна вылучыць *дасканалую праверку культурнага абслугоўваньня і клясавага зьместу культурнае працы ў саўгасах і колгасах.* Тут культурны фронт досыць такі слаба забясьпечаны і тут патрэбна дабіцца рашучага пераломy і ў першую чаргу *ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці сярод саўгаскіх рабочых і калгасьнікаў.*

*Актыўная дапамога комсамолу, бальшавіцкае кіраўніцтва трохмесячнікам, непасрэдны ўдзел у ім, праверка выкананьня дырэктыў партыі ў культурным будаўніцтве—вось тыя асноўныя задачы, што стаяць пры правядзеньні трохмесячніку перад партыйнымі організацыямі.*

Азаронак

# Камсамол і веснавая сяўба

Пасьпяховае правядзеньне вясной сель.-гаспадарчай кампаніі 1930 г. набывае выключна важнае палітычнае і эканамічнае значэньне дзеля вырашэньня асноўных задач па ўздыму і соц. перабудове с.-гаспадаркі ў другі год 5-годкі. Каранны пералом у разьвіцьці і соц. перабудове с.-гаспадаркі на працягу 1-га году 5-годкі, выявіўшыся ў буйным разгортваньні саўгасных і калгасных форм с.-гасп. вытворчасьці, зьявіўся вынікам рашучага правядзеньня задач індустрыялізацыі краіны, умацаваньня змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі бядняцка-серадняцкага сялянства і наступленьня на кулака. Задача замацаваньня разгарнутага будаўніцтва саўгаснага і калгаснага руху і далейшы яшчэ больш узмоцнены тэмп аграмаджаньня ўсёй с.-гаспадаркі патрабуе ажыцьцяўленьня ў вясновым пэрыядзе 1930 г. выключна высокіх і напружаных тэмпаў і асабліва чоткай організацыі ўсёй работы па сельска-гаспадарчай кампаніі.

Зараз работа організацыі КСМ павінна быць пераключана цалкам да задач вясновай с.-гасп. кампаніі за падняцьце і організацыю творчасьці мас ЛКСМБ і шырокіх колаў бядняцка-батрацкай моладзі вакол пытаньня вясновай кампаніі пры рашучым выкананьні лініі партыі ў справе соц. перабудовы с.-гасп. па шляхох яе калектывізацыі. Той калгасны рух, які зараз ідзе на Беларусі пры пад'ёме асноўных мас батрацкіх, бядняцка-серадняцкіх пластоў сялянства, імкненьне іх да калгаснага руху не павінна заставіць нашу організацыю ЛКСМБ плясьціся ў хвасьце гэтага руху. Перад намі зараз стаіць задача ўцягнуць у яго шырокія колы бядняцка-батрацкай моладзі, гэта вялікая задача патрабуе ад нашай арганізацыі напружанасьці, мы павінны зараз работу вясковай організацыі ЛКСМБ перабудаваць па вытворчаму прынцыпу. Асноўным зьместам работы вясковай яч. ЛКСМБ павінна зьяўляцца калгаснае будаўніцтва і яго ўсямернае ўмацаваньне, выходзячы з гэтага орг. структура комсамольскай організацыі на вёсцы павінны будавацца па вытворчаму прынцыпу, ува ўсіх калгасах, дзе ёсьць комсамольцы ствараць ячэйкі ЛКСМБ, у буйных калгасах ствараць комсамольскія калектывы з ячэйкамі, па асобным вучасткам калгасу, разгортваньне работы па шырокаму ўцягненьню ў КСМ калгаснай моладзі (выходзячы з рашэньняў сьнежаньскага пленуму ЦК УсеЛКСМ).

Пытаньне вясновай с.-гасп. кампаніі павінна зьявіцца для нас рашучым у справе яшчэ большага разгортваньня калгаснага руху.

Гэта высоўвае задачу перад комсамольскай організацыяй масавага разгортваньня аграпрапаганды, правядзеньне агра-мінімуму ўсімі комсамольцамі, поўнага ачышчэньня насеньня, пагалоўнага ўцягненьня комсамольцаў у калгасы, стварэньне с.-гасп. гурткоў і каротка-тэрміновых курсаў дзеля зьнішчэньня агракалгаснай няпісьменнасьці, пры шырокім уцягненьні ў гэтую працу аграноміі. У справе правядзеньня вясновай с.-гасп. кампаніі гарадзкія організацыі таксама не павінны стаяць у баку, паход за ўраджай, які мы зараз праводзім і калектывізацыю даў некаторы вопыт у справе дапамогі гарадзкой організацыі вясковым. Гэты вопыт павінен быць пашыраны і паглыблены. Гарадзкія організацыі зараз павінны прыступіць да організацыі ўдарных брыгад па адрамантаваньню інвэнтару і г. д. з выездам у вёску ў час севу, дапамога сатаварыствуючым вясковым організацыям, культурна-працоўны паход у вёску, організацыя соц. спаборніцтва паміж гарадзкімі ячэйкамі з вясковымі, за падняцьце вытворчасьці працы на фабрыцы, заводзе ў горадзе, за падняцьце вытворчасьці працы, хутчэйшага аграмаджаньня гаспадаркі ў саўгасе і калгасе, усё гэта павінна спрыяць умацаваньню пралетарскага кіраўніцтва вёскай.

Зараз возьмем пытаньне работы сярод беднаты. Бязумоўна трэба сказаць, што пытаньне работы сярод беднаты мы як сьлед не разгарнулі да гэтага часу. Сярод асобнай часткі ЛКСМБ ёсьць недаацэнка работы з беднатой, нам трэба зараз работу сярод беднаты паставіць так, каб яна садзейнічала далейшаму разгортваньню калектывізацыі і асабліва трэба разгарнуць працу сярод батрацкай, бядняцкай моладзі, шляхам скліканьня конфэрэнцый, — зьлётаў гэтай моладзі з абгаварэньнем пытаньня в я с н о в а й с.-гасп. кампаніі і калектывізацыі, побач з гэтым асаблівую ўвагу набывае работа з дзяўчатамі батрачкамі, бядначкамі ў справе набліжэньня іх да ўдзелу ў вырашэньні пастаўленых перад арганізацыяй задач. Апошні пленум ЦК ЛКСМБ пастанавіў на працягу лютага м-ца правесьці ва ўсіх раёнах і акругах нарады дзяўчат, бязумоўна гэта задача з боку арганізацыі павінна быць выканана.

На справу правядзеньня вясеньняй кампаніі павінны быць мабілізаваны групы „Л. К.“, у працу якіх павінна ўвайсьці: праверка падрыхтаванасьці ўстаноў, заводаў, саўгасаў, калгасаў да правядзеньня вясновай с.-гасп. кампаніі, прымаючы меры праз органы РСІ да хутчэйшай ліквідацыі перабояў і выпадкаў бюрократызму. На заводах, транспарце, складах прадпрыемстваў, абслужываючых вясновую с-гасп. кампанію трэба ўтварыць у дапамогу гасп. органам РСІ дружыны рабочай моладзі, якія садзейнічаюць выкананьню заданьняў да вясновага севу.

Уся гэта работа ня можа праходзіць бяз жорсткай клясавай барацьбы з боку варожых нам элемэнтаў, якія імкнуцца сарваць наша соц. будаўніцтва рознымі спробамі, з боку комсамольскай арганізацыі павінна быць паказана наша ўмеласьць, згуртаванасьць на рашучую барацьбу з кулацкімі элемэнтамі, а таксама рашучае ачышчэньне шэрагу ЛКСМБ ад людзей выпадкова папаўшых у саюз. Клясавая барацьба патрабуе ад нас таго, каб у саюзе была пераважная большасьць батрацкай і бядняцкай моладзі. Толькі зрух у бок палепшаньня работы сярод гэтай моладзі ўтворыць моцную клясавую аснову для работы КСМ на вёсцы.

Вясновая с.-гасп. кампанія, разьвернуты паход за соц. перабудову вёскі, пасьпяхова могуць быць праведзены толькі пры ўмовах цьвёрдага парткіраўніцтва і дапамогі КСМ, пры ўмовах бязьлітаснай барацьбы з усякімі спробамі скрыўленьня чоткай Ленінскай лініі.

# ХРОНІКА

## У АПАД ЦК КП(б)Б

I

У лютым мяркуецца склікаьне Ўсебеларускай агітпропнарады, на якой будуць разглядацца пытаньні масавай работы і становішча парт. асьветы.

II

У хуткім часе аргаддзел ЦК КП(б)Б разам з апад арганізуюць шэраг брыгад для абсьледваньня масавай работы на прадпрыемствах. Брыгады акрамя абсьледаваньня масавай работы будуць практычна дапамагаць ячэйкам наладзіць работу.

III

На апад-нарадзе заслухана інфармацыя аб стане антыалькагольнай работы. Адзначана, што большая частка дырэктыў ЦК па гэтаму пытаньню н е в ы к а н а н ы. Намячаецца шэраг мерапрыемстваў па ажыўленьню гэтай работы.

# НА АБГАВАРЭНЬНЕ

О. Конакоцін

## Штабы палітычна-культурнага абслугоўваньня раёнаў СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

На падставе рашэньняў верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) апошні пленум ЦК КП(б)Б, што адбыўся ў першых лічбах студзеня м-ца ўжо конкрэтызаваў тэрмін, у які ўся сельская гаспадарка бяднякоў і сераднякоў БССР павінна быць колектывізавана.

> „Пленум ЦК, улічваючы ўсё ўзрастаючы тэмп руху бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, усё ўзрастаючую творчую энэргію і ініцыятыву батрацтва, беднаты і серадніякоў у справе будаўніцтва колектыўных форм земляробства, ставіць перад усёй КП(б)Б, перад рабочай клясай і ўсёй пролетарскай грамадзкасьцю практычную задачу поўнасьцю колектывізаваць усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі да канца 1931 г.“
>
> (З рэзолюцыі аб суцэльнай колектывізацыі с.-г. БССР і правядзеньні с.-г. кампаніі ў 1930 г.)

На выкананьне гэтай гістарычнай пастановы пленуму ЦК нашай партыі павінны быць накіраваны ўсе сілы КП(б)Б, усе сілы рабочае клясы БССР, каб іменна ў гэтыя два гады Беларусь, непераможнай воляй пролетарыяту і працоўных, была ператворана з краіны з дробнаўласьніцкай сельскай гаспадаркай у краіну суцэльнай колектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У выкананьні гэтай вялічэзнай задачы адну з важных роляй адыгрывае палітычная і культурная работа, бо тут з усёй вастратой перад намі стаіць задача палітычнага забясьпечаньня пляну „соцыялістычнага ператварэньня сельскае гаспадаркі“, разам з гэтым плян наступленьня соцыялізму патрабуе перабудовы сыстэмы палітычнага і культурнага абслугоўваньня вёскі і паскораных тэмпаў усёй гэтай работы.

Яшчэ лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) у рэзолюцыі аб задачах колгаснага будаўніцтва падкрэсьліў, што

> „савецкія органы, колгасная сыстэма, с.-г. і спажывецкая коопэрацыя і ўся савецкая грамадзкасьць павінны разгарнуць шырокую работу па культурнаму абслугоўваньню колгаснага насельніцтва ў першую чаргу ў буйных колгасах і ў раёнах суцэльнай колектывізацыі“...

Праўда, мы маем ужо і зараз добрыя ўзоры політычнага і культурнага абслугоўваньня паасобных колгасаў, але гэта можна тлумачыць часткова і тым, што пролетарская грамадзкасьць актыўна дапамагала гэтым раёнам і ўзьнімала там працу на належную, дагэтуль нябачаную, вышыню. Добрыя прыклады абслугоўваньня такіх раёнаў як Клімаўшчына нас ня могуць супакойваць. У большасьці раёнаў політычная і культурная работа праводзіцца вельмі марудна па тэмпах і і ня здавальняюча па зьместу і сыстэме.

Зьмены вытворчых прынцыпаў у с. г. ня мінуча павінны выклікаць і зьмены ў сыстэме культурнага абслугоўваньня вёскі, бо вёска карэнным чынамператвараецца: замест дробна-ўласьніцкіх гаспадарак ствараюцца новыя вялікія вытворчыя с.-г. аб'яднаньні з аграмаджанымі сродкамі вытворчасьці, дзе аграмаджаная праца колектыву будзе зьяўляцца падставай для соцыялістычнага перавыхаваньня селяніна, і тут мэтады і сыстэма разьлічаныя на індывідуальнае абслугоўваньне павінны быць перабудаваны.

Гаворачы аб сыстэме політасьветных устаноў, якія мы зараз маем на вёсцы, трэба мець на ўвазе тое, што гэтая сыстэма і дагэтуль засталася бяз ніякіх

# СХЭМА
## КУЛЬТУРНАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ КАЛГАСУ —РАЙЁНУ СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.



зьмен спачатку яе пабудовы. Шэраг устаноў і арганізацый як хаты-чытальні, нардамы, радыё-вузлы, бібліотэкі, коопэрацыйныя, чырвоныя куткі, living рознастайныя гурткі і г. д. праводзяць працу без адзінага пляну; часта хата-чытальня бярэцца за тое, што можа лепей выканаць бібліотэка, гэтаму спрыяе і слабасьць райполітасьветаў на мясцох і тое, што кожная ўстанова мае свае вышэйшыя органы, якія дрэнна ўвязваюць працу паміж сабой і гэты разнабой даходзіць да раёну і там адбітак ведамсьцьвеннасьці ўплывае на работу. Такое становішча зьяўлялася нормальным, калі ішла гутарка ад абслугоўваньні неорганізаванай бядняцка-серадняцкай масы вёскі, але зараз справа ідзе па інакшаму, паўстае пытаньне аб абслугоўваньні арганізаваных бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Перабудова старых і пабудова новых органаў політычнай і культурнай работы адстае ад тэмпаў соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Нам неабходна

> „ў бліжэйшы час дабіцца, каб у кожным колгасе, у кожным населенным пункце, а ў першую чаргу ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, быў чырвоны куток альбо культпункт, у кожным кусьце колгасаў альбо вытворчым вучастку—куставы клюб, а ў цэнтры раёну, у месцы знаходжаньня яго тэхнічнай базы—магутны політычна-культурны цэнтр...“ („Правда“).

Нам неабходна, каб усе сілы і сродкі, што ідуць у раён суцэльнай колектывізацыі аб'ядналіся ў адзінае цэлае і разьмяркоўваліся па адзінаму пляну, бо толькі пры гэтай умове мы зможам больш рацыянальна і з большым эфэктам скарыстаць тое, што даецца раёну.

> *Таму стварэньне адзінага кіруючага і пляную чага цэнтру, пры інспэктарыятах асьветы РВК, па політычнаму і культурнаму абслугоўваньню колгасаў раёну суцэльнай колектывізацыі, зьяўляецца неадкладнай справай.*

Перш чым гаварыць аб самым раённым цэнтры мы павінны накідаць схэму нізавых зьвеньняў, праз якія павінна праводзіцца работа на мясцох.

Выхадным пунктам у пабудове сеткі політасьветных устаноў для нас зьяўляецца сыстэма вытворчых аб'яднаньняў, з якіх складаецца колгас і сыстэма колгасаў, што ўваходзяць у раён суцэльнай колектывізацыі. І калі мы прымем за рэальнае, а гэта яшчэ будзе так на некаторы час, што вытворчыя аб'яднаньні прыдзецца будаваць навокал колектывізаваных вёсак і пасёлкаў, дык

> *у кожнай колектывізаванай вёсцы альбо колектывізаваным пасёлку неабходна стварыць чырвоны куток, кіраваць кутком павінен культупаўнаважаны, які абіраецца на агульным сходзе вытворчага аб'яднаньня.*

Гэта першае зьвяно сыстэмы культурнага абслугоўваньня колгасьнікаў. Вышэйшая форма вытворчага аб'яднаньня (па нашай думцы) будзе колгас і тут у гэтым больш складаным вытворчым аб'яднаньні павінна быць другое зьвяно сыстэмы.

> *Кожны колгас павінен мець клюб—рэорганізаваную хату-чытальню, з шэрагам гурткоў, радыё-ўстаноўкай, чытальняй і г. д. Пры чым усе галіны работы такога клюбу павінна абслугоўваць і раённая політасьветная база. Для кіраўніцтва клюбнай работай абіраецца савет, які складаецца з культупаўнаважаных першага зьвяна і з тварышоў ад розных організацый.*

Як мы ўжо і казалі, у раёне пры РВК ствараецца адзіны цэнтр, які аб'ядноае ўсе людзкія сілы, тэхнічныя сродкі культурнай работы, як кіно, радыё, усе сродкі, якія выдаткоўваюцца рознымі ўстановамі і організацыямі, цэнтр плянуе і кіруе ўсёй політыка-асьветнай работай раёну суцэльнай колектывізацыі.

У раённы політычна-культурны цэнтр РВК павінны ўваходзіць:

1. *Бібліотэка-чытальня* з некалькімі бібліотэкамі-перасоўкамі: колькасьць перасовак залежыць ад таго, колькі колгасаў увaходзіць у раён суцэльнай колектывізацыі. Гэтыя перасоўкі час-ад часу перакідаюцца з аднаго клюбу ў другі, а пры тых умовах, што ў кожным раёне будзе аўтомобіль (а гэта плянам прадугледжана) рабіць гэта будзе вельмі лёгка.

2. *Кіно-стацыянарка* для абслугоўваньня раённага цэнтру з некалькімі кіноперасоўкамі, для апошніх тут-жа трэба мець і належную колькасьць кіно-карцін, якія праз раённы цэнтр будуць абменьвацца карцінамі, такім чынам кіно-стацыянарка будзе і кіруючым раённым пунктам для перасовак.

3. *Радыё-вузел* з невялічкім узмацніцелем і сваім мікрофонам. Радыё праз

дротавую тэлефонную сетку можа даваць перадачы ў колгасы і ў вытворчыя аб'яднаньні. Мікрофон дае магчымасьць рабіць і свае раённыя перадачы, перадаваць асобныя даклады, і паведамленьні, а таксама і агульныя распараджэньні кіраўніцтва колгасу па гаспадарчай лініі.

4. *Пошта і тэлефон*—палітычнае і культурнае значэньне гэтага зьвяна не патрабуе тлумачэньня.

5. *Колгасная шматтыражная друкаваная газэта*, якая павінна выдавацца два альбо чатыры разы ў месяц. У тых раёнах, дзе ёсьць друкарні, справа з выданьнем газэты будзе ўпірацца выключна ў пытаньне задавальненьня паперай, а там, дзе няма друкарні трэба наладзіць справу з паходнай друкарняй. Кожная акруга можа без вялікіх цяжкасьцяй абсталяваць такую друкарню, як гэта зрабілі менскія друкары ў дзень друку, паставіўшы плоскую машыну на аўтомобіль, які і прыводзіў у рух і друкарскую машыну. Такая друкарня за месяц зможа абслужыць ад 5 да 6 раёнаў.

6. *Партыйная школа* ў раёне разьлічваецца на сталых слухачоў, якія вучацца ня менш аднаго вучэбнага году. Габінэт партработы ставіць сваёй мэтай дапамагчы тым партыйным таварышом, якія праводзяць агітацыйна-масавую і пропагандыцкую працу.

7. Зусім новае для раёну гэта *колгасная сельска-гаспадарчая школа*, тып якой павінен быць выпрацаван з улікам вопыту і школ фабзавучу і с.-г. тэхнікумаў, такая школа павінна быць чымсьці сярэднім у параўнаньні з гэтымі абодвымі ўстановамі. Мы ўпэўнены, што нашыя спэцыялістыя аграномы і пэдагогі такі тып школы створаць, бо падрыхтоўка тэхнічна пісьменнага колгасьніка справа вельмі актуальная і яе трэба вырашаць ня вышэй як у раённым маштабе. Мэтазгодна пры школе мець і агранамічны савет, які-б аб'яднаў вопыт і досьледы месц і вывучаў паасобныя пытаньні на вопытных паказальных вучастках.

8. *Лектарскае бюро* аб'яднаючы і ўлічваючы ўсе палітычныя і культурныя сілы раёну можа лепш разьмяркоўваць іх, чым кожная ўстанова ў паасобку, як гэта ёсьць зараз.

9. *Бюро самаадукацыі* пры школах сямігодках павінна будзе паставіць працу па самаадукацыі сярод колгасьнікаў і весьці кіруючую работу па завочнаму навучаньню.

10. *Культпалаткі альбо агітпалаткі-перасоўкі* прымацоўваюцца да машынна-трактарных колён, альбо да машынна-конных колён. Працу вядзе той-жа таварыш, які бязумоўна будзе ў рэзэрву кожнай колёны з інструмантамі і іншымі паасобнымі матэрыяламі. Калі будзе магчымасьць набыць палатку вайсковага абразца, дык гэта будзе зусім добра. У палатцы павінны быць газэты, плякаты, маленькія брошуркі, ілюстраваныя часопісі, агротэхнічныя брошуркі і лістоўкі ў адпаведнасьці з тэй працай, якую праводзіць машынная колёна.

11. Зусім новай часткай у працы павінны быць *саветы па перабудове быту колгасьнікаў* на чале з інструктарам па быту. Перад гэтым зьвяном стаіць задача распрацоўкі шэрагу мерапрыемстваў па рэорганізацыі быту (новы быт жанчын-колгасьніц, выхаваньне дзяцей, пабудова бытавых устаноў і г. д.).

12. Такое зьвяно, *як савет па ахове здароўя, павінен* распрацаваць комплекс мерапрыемстваў па ахове здароўя колгасьнікаў, па санітарнаму абслугоўваньню колгасьнікаў, па вывучэньню ўмоў працы і ўплыву вытворчасьці на здароўе колгасьнікаў і г. д.

І нарэшце апошнія тры зьвяны не патрабуюць ніякіх тлумачэньняў, бо з іх назвы яскрава відавочны іх абавязкі.

Увязаўшы працу кожнага зьвяна з агульным плянам палітычнага і культурнага абслугоўваньня раёну, мы можам набіцца максымальнай актыўнасьці кожнага зьвяна, прычым усё гэта будзе ісьці па адзінаму пляну з адзінай мэтавой установкай, на той ці іншы адрэзак часу.

З работай палітасьветных баз павінны быць увязаны і тыя мерапрыемствы, якія праводзяцца па лініі шэфства гораду над вёскай.

Практыка некаторых раёнаў СССР дае нам добрыя прыклады працы рабочых брыгад аб'яднаных з культурнымі брыгадамі, такія брыгады праводзяць палітычную, організацыйна-гаспадарчую

і культурную працу ў колгасах. Такія саюзы, як працасьветы, мэдсанпрацы, спэцыялістыя розных галін, студэнты павінны праводзіць працу не паасобку, а разам з рабочымі прамысловых прадпрыемстваў, ствараючы аб'яднаныя брыгады.

Агітацыйна-пропагандыцкія брыгады ўкомплектаваныя з агітатараў, пропагандыстых і студэнтаў комвузу, таксама з большым эфэктам будуць працаваць у колгасах, бо ў час іх працы ў колгасе яны створаць і падрыхтуюць навокал габінэту партработы актыў, які зможа працягваць іх працу, падтрымоўваючы сувязь з брыгадай.

Саюз працаўнікоў асьветы, с.-г. спэцыялістыя, якія пачынаюць у некаторых кутках Савецкага Саюзу праводзіць ліквідацыю агрономічнай няпісьменнасьці сярод вясковага настаўніцтва, праз політасьветбазы (паасобныя яе зьвеньні) будуць мець магчымасьць лепш разгарнуць сваю работу і замацаваць яе.

Нават і такія агульнадзяржаўныя мерапрыемствы, як збор другараднай сыравіны, як лесазагатоўкі, кожным зьвяном базы павінна праводзіцца як політычная работа па агульнаму пляну работы політасьветбазы раёну суцэльнай колектывізацыі.

Мы прыводзім гэтыя прыклады для таго, каб давесьці, што справа якой павінны займацца політасьветбазы зьяўляецца сапраўды вялікай і рознастайнай, таму тут павінна быць самая выразная чоткасьць у самай організаванай пабудове політычнага і культурнага абслугоўваньня колгасаў. Гэту галіну работы мы ні ў якім разе не павінны разглядаць як другарадную, а як састаўную частку агульных мерапрыемстваў, якія праводзіць партыя па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі.

Ставячы нашы прапановы на абгаварэньне мы ўпэўнены, што т.т., якія праводзяць практычную работу па колектывізацыі, адгукнуцца на нашы прапановы і дадуць шэраг папраўак да гэтай організацыйнай структуры політасьветбаз.



О. Конакоцін
М. Лабадаеў

# Перабудавацца бальшавіцкім тэмпам

*(У парадку абгаварэньня)*

**Шпаркі тэмп соцыялістычнай рэконструкцыі патрабуе перабудовы ўсёй сыстэмы партыйна-масавай работы. Партыйна-масавая работа патрабуе значнага палепшаньня і карэннай перабудовы.**

**Рэдакцыя часопісі „Партыйны Работнік“ ставіць на шырокае абгаварэньне пытаньне аб перабудове партыйна-масавай работы на прадпрыемствах. Дасылайце свае заўвагі па прапановах, якія закрануты ў артыкуле, пішэце аб вопыце работы на прадпрыемствах.**

Мы зараз працуем ва ўмовах шпаркіх тэмпаў соцыялістычнай рэконструкцыі. Шырокай хваляй разгарнулася творчая ініцыятыва і энтузіязм рабочых. Зусім ясна, што пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі і рашучае наступленьне соцыялізму, высоўваюць перад намі шэраг складаных і адказьнейшых задач. Зараз працаваць так, як год таму назад па тэмпах і якасьці работы, гэта значыць адставаць ад жыцьця і галоўнае не стаяць на чале творчай ініцыятывы і энтузіязму рабочых.

Шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва: ад ударных брыгад і цэхаў мы пераходзім да ўдарных заводаў. З посьпехам і вялікім вытворчым эфэктам ажыцьцяўляецца пераход на непарыўны рабочы тыдзень і сямігадзінны дзень; на прадпрыемствы ўліваюцца новыя, яшчэ не загартаваныя кадры рабочых. Усе гэтыя важнейшыя мерапрыемствы сягоняшняй самапраўднасьці патрабуюць ад нас новых мэтадаў і новых ударных тэмпаў работы. Возьмем для прыкладу работу сярод новых кадраў рабочых. Перад намі ва ўсёй сваёй шырыні паўстае задача перавыхаваньня новых кадраў рабочых, перавыхаваньня іх у духу сьвядомай пролетарскай дысцыпліны, усьведамленьня кіруючай ролі нашай партыі і задач соцыялістычнага будаўніцтва. Гэты процэс далучэньня новых рабочых да ўсяго рабочага колектыву ў сэнсе іх падрыхтоўкі і пролетарскай сьвядомасьці, патрабуе паскораных тэмпаў і значна лепшай якасьці работы.

Такім чынам на сёняшні дзень проблема ўзмацненьня партыйна-масавай работы на прадпрыемствах, стварэньне большай ініцыятыўнасьці і рухомасьці ва ўсёй сыстэме работы, што забясьпечыла-б найбольш хуткую і пасьпяховую мобілізацыю рабочага колектыву на выкананьне баявых ударных задач соцыялістычнага будаўніцтва, ёсьць адна з асноўных проблем партыйнай работы.

Задачы ўскладняюцца, тэмпы работы значна паскараюцца, нам неабходна дамагчыся таго, каб партыйна-масавая работа цалкам і поўнасьцю адпавядала задачам рэконструкцыйнага пэрыоду і якасна была-б значна палепшана.

* * *

Партыйна-масавая работа ў большасьці прадпрыемстваў знаходзіцца ў стадыі перабудовы і прыстасаваньня да задач рэконструкцыйнага пэрыоду. Аднак тэмпы перабудовы работы яшчэ адстаюць ад тэмпаў соцыялістычнай рэконструкцыі

і ўзросшай актыўнасьці рабочых. Больш таго. На сёняшні дзень на паасобных вучастках становішча работы можна лічыць нездавальняючым. На далёка ня высокім якасным узроўні знаходзіцца работа па выхаваньні новых кадраў рабочых, амаль поўная адсутнасьць перабудовы і прыстасаваньня да ўдарных тэмпаў клюбнай работы, недапусьціма слаба пастаўлена работа па ўзброеньню рабочых тэхнічнымі ведамі (а гэта цяпер асабліва важна). Шмат блытаніны ў масавай рабоце, адсутнічае дыфэрэнцыяцыя гэтай работы па паасобных яе відах.

Вось некалькі характарыстык, якія сьведчаць аб неабходнасьці рашуча і востра ставіць пытаньне аб перабудове партыйна-масавай работы.

У мінулым нумары „Партыйнага работніка“ прыводзіўся прыклад таго, як адсутнасьцю належнай работы па падрыхтоўцы да бесьперапынкі на бабруйскім комбінаце прывяла да расьцеранасьці перад новымі ўмовамі, што прынёс з сабой бесьперапынны рабочы тыдзень. Можна было-б прывесьці шмат прыкладаў таго, як мы адстаем ад тэмпаў нашага будаўніцтва, аднак прыведзены прыклад зьяўляецца характэрным і можа ў тых ці іншых варыянтах мець месца і ў нашых астатніх прадпрыемствах.

* * *

Пры перабудове сваёй работы на прадпрыемствах мы павінны ўважліва сачыць за тым вопытам, які ўжо ёсьць на прадпрыемстве, дасканала ўлічваць гэты вопыт, вывучваць яго і рабіць дастаяньнем усіх ячэек. Да рэчы трэба сказаць, што мы яшчэ далёка ня ўсё зрабілі для таго, каб як належыць вывучаць вопыт работы і найбольш хутка яго распаўсюджваць. Пры перабудове работы, абавязковай умовай павінна зьявіцца вучот вопыту і яго хутчэйшае прымяненьне.

Нам неабходна максымальна пашырыць і замацаваць сыстэму організатараў (групоргі, цэхоргі, зьменоргі і інш.), асаблівая неабходнасьць у арганізатарах адчуваецца пры пераходзе на бесьперапынку. Акрамя таго організацыйная структура партячэек наогул патрабуе таксама свайго ўдасканаленьня. У якасьці прапановы мы раім скарыстаць вопыт організацыі зьменных ячэек, што можа знайсьці сваё прыстасаваньне і на менш буйных прадпрыемствах.

Вопыт перабудовы партыйна-масавай работы ў партколектывах буйных прадпрыемстваў Масквы і Ленінграду дае нам узоры, якія можна і неабходна перанесьці для ўжываньня і на прадпрыемствы Беларусі.

Зараз у партколектыве неабходна стварыць групу таварышоў, якія па друку ўважліва сачылі-б за матэрыяламі па перабудове партыйна-масавай работы на прадпрыемствах і практычна абгаварвалі-б на бюро ці сходах ячэек магчымасьць выкарыстаньня гэтага вопыту.

Трэба загадзя папярэдзіць магчымы мэханічны перанос вопыту работы. Нам неабходна не мэханічнае перанясеньне вопыту работы, а яго практычнае прыстасаваньне да ўмоў данага прадпрыемства. Мэханічнае перанясеньне вопыту работы вельмі часта параджае скаргі на тое, што „вопыт не ўдаўся“.

> Мы раім увазе чытачоў перабудову работы партколектываў па сыстэме вучасткаў (гл. схэму парторганізацыі заводу). На наш погляд такая сыстэма пабудовы партыйна-масавай работы якраз і адпавядае асноўнаму запатрабаваньню: гнуткасьці, рухомасьці і ўменьню сваячасова мобілізоўваць увагу на галоўных, баявых па значэньню, вучастках работы.

Пры сыстэме вучасткаў мы дасягаем таго, што:

а) бюро партколектыву можа роўнамерна разьмяркоўваць свой актыў па галінах работы;

б) вакол асобных вучасткаў будзе групавацца актыў больш-менш кваліфікаваны па адпаведных пытаньнях работы;

в) няма вялікага драбленьня сіл па цэхах, а ўсе цэхавыя работнікі адпаведных галін будуць аб'яднацца ў адпаведных вучастках.

Мы ня раім дасканальна копіраваць схэму. Наадварот. Чым больш будзе праяўлена ініцыятыва на месцы, тым лепш. Вучасткі работы могуць утварацца і асобныя ў залежнасьці ад таго, наколькі на вызначаны адрэзак часу перад партколектывам паўстае баявая і адказная задача.

Мы лічым, што перайсьці на сыстэму вучасткаў (вядома з тымі ці іншымі варыянтамі) могуць партколектывы як

# СХЭМА ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ ЗАВОДУ.



Меншвей, чыгунка, фабрыка „Дзьвіна“, завод „Комунар“, галоўныя майстэрні (Гомель), „Чырвоны мэталіст“ (Віцебск), фабрыка „Везувій“ і інш. буйныя прадпрыемствы БССР.

Дамо некалькі тлумачэньняў да схэмы.

Чым павінны займацца асобныя вучасткі работы.

*Партыйная асьвета:* акрамя кіраўніцтва і наладжваньня партасьветы гэты вучастак займаецца адпаведным падборам і падрыхтоўкай кандыдатур да вучобы. Ня трэба даказваць, што задача падбору і падрыхтоўкі кандыдатаў на вучобу зьяўляецца аднэй з важнейшых.

*Агітацыя:* абслугоўваньне належным агітацыйным матэрыялам кампаній, гэты вучастак у некаторых мясцох можа быць аб'яднаны з *культурна-масавым*. У задачу такога вучастку павінна ўваходзіць правядзеньне культурна-масавых мерапрыемстваў—практычна гэта павінна аб'яднацца з работай культкамісій.

*Друк:* работа насьценгазэты і з рабкорамі.

*Інформацыйна-статыстычны:* акрамя работы па статыстыцы і сувязі з райкомам па лініі падрыхтоўкі розных інформацыйных матэрыялаў, гэты вучастак павінен займацца вывучэньнем настрояў і запатрабаваньняў рабочых.

*Профработа:* акрамя непасрэднай работы, якая вызначаецца ў самай назьве перад даным вучасткам, баявой задачай будзе зьяўляцца перабудова профсаюзнай работы, разгортваньне работы з беспартыйным актывам. Акрамя таго неабходна практыкаваць прапрацоўку промфінпляну па цэхах і асобных аддзяленьнях. Вядома, што аднэй з баявых задач на сёняшні дзень зьяўляецца выкананьне промфінпляну і таму на гэты вучастак работы павінна быць мобілізавана ўвага.

*Работа сярод моладзі:* зразумела, што тут поўны комплекс пытаньняў, якія выцякаюць з штодзеннага кіраўніцтва комсамолам і паколькі гэтая галіна работы ня зусім дрэнна вядзецца і зараз мы толькі высоўваем яшчэ адну баявую задачу, акрамя шэрагу іншых, гэта організацыя работы па набыцьцю моладзьдзю тэхнічных ведаў.

*Савецка-коопэрацыйны вучастак* павінен ставіць сваёй задачай стварэньне коопэрацыйнай грамадзкасьці, палепшаньне сувязі горсаветаў з прадпрыемствамі праз рабочых членаў саветаў.

*Рост партыі і работа з кандыдатамі:* гэты вучастак займаецца работай, зьвязанай з ростам партыйнага колектыву і рэгуляваньнем нагрузкі. Перад гэтым вучасткам, як чарговая і важная задача зьяўляецца вярбоўка рабочых-ударнікаў у партыю.

*Партгабінэт*—працуе ў шчыльнай сувязі з партшколай і забясьпечвае падбор належных матэрыялаў. Партгабінэт павінен узяць на сябе такую важную і цікавую работу, як падбор належных матэрыялаў па рабоце такіх-жа прадпрыемстваў, на якім габінэт існуе. Напрыклад, каштоўным матэрыялам будзе зьяўляцца для панчошнай фабрыкі падбор належных газэтных выразак аб рабоце панчошных фабрык і наогул па гэтай справе іншых Саюзных рэспублік.

*Інтэрнацыянальная сувязь.* Апрача правядзеньня ўсёй інтэрнацыянальнай работы на прадпрыемстве гэты вучастак зьвязваецца з такімі-жа прадпрыемствамі іншых Саюзных рэспублік.

*Вучастак па разгляду газэтных матэрыялаў*—падрабязна разглядае ўсе газэтныя заметкі аб даным прадпрыемстве, падбор артыкулаў па паасобных пытаньнях прамысловасьці і г. д.

Вось прыкладна чым павінны займацца асобныя вучасткі партработы. Мы гаворым *прыкладна* таму, што няма патрэбы спыняцца на рабоце кожнага з вучасткаў, бо назва сама за сябе гаворыць і акрамя таго на месцы будуць выцякаць шэраг новых пытаньняў, якія ня могуць быць перагледжаны ніякай схэмай.

* * *

Мы ў плянавым парадку пераходзім на бесьперапынны вытворчы тыдзень. Патрабуецца добрая падрыхтоўка ўсёй сыстэмы партыйна-масавай работы да пераходу на бесьперапынку. У гэтых адносінах найбольш каштоўным зьяўляецца вывучэньне вопыту работы партячэек, якія працуюць ужо ў гэтых умовах. Таму перад пераходам прадпрыемства на бесьперапынку неабходна наладзіць дасканальнае вывучэньне вопыту работы (часткова газэтны матэрыял).

Мы ня зьбіраемся падрабязна спыняцца на перабудове работы ў зьвязку з пераходам на бесьперапынку, гэта пытаньне патрабуе асобнай распрацоўкі. Пакажам на асноўнае ў падрыхтоўцы.

*Першае.* Сярод рабочых неабходна правесьці шырокую растлумачальную работу. Улічыць, што пры бесьперапынцы неабходна забясьпечыць правільнае разьмеркаваньне кваліфікаванай рабочай сілы, патрабуецца павялічэньне кваліфікаваных рабочых, таму неабходна паклапаціцца аб падрыхтоўцы рабочай сілы.

*Другое.* На адным варштаце будуць працаваць розныя людзі. Патрэбна правесьці належную растлумачальную работу за беражлівыя адносіны да варштату і інструманту.

*Трэцяе.* У зьвязку з бесьперапынкай патрэбна асаблівае прасоўваньне ўсёй работы ў цэх. Паўстае пытаньне аб арганізацыі адпачынку рабочых, неабходна забясьпечыць вылучэньне організатараў адпачынку, падрыхтоўку і вылучэньне прапагандыстых.

* * *

У зьвязку з перабудовай усёй партыйна-масавай работы ня лішне будзе паставіць пытаньне аб нашых дабраахвотных таварыствах. На сёняшні дзень гэтых таварыстваў надта многа. Становішча іх работы, акрамя асобных таварыстваў, далёка не выстарчальнае. На асобных прадпрыемствах мы маем такое становішча, калі кожны рабочы зьяўляецца сябрам у 5—7 таварыствах.

Некаторыя кіруючыя таварышы з Наркамасьветы выносілі прапанову аб аб'яднаньні некаторых таварыстваў. Нам здаецца, што гэтая прапанова заслугоўвае ўвагі.

Прапанову можна сформуляваць наступным чынам:

> Можна пакінуць як самастойныя наступныя таварыствы: МОПР, ТДАвіяхім, Чырвоны Крыж, астатнія: Прэч няпісьменнасьць, Прыхільнікі радыё, фото і кіно, Саюз ваяўнічых бязбожнікаў і супроць алкагольнае таварыства — можна аб'яднаць у адно таварыства „Садзейнічаньня культурнай рэволюцыі“.
>
> Азэт, шэфтаварыства і новыя таварыствы садзейнічаньня колектывізацыі — можна аб'яднаць у таварыства садзейнічаньня соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі.

Зусім зразумела, што кожнае таварыства можа мець асобныя сэкцыі, у якіх можна праводзіць належную спэцыфічную работу.

Вось тая сума прапаноў, якія па нашай думцы заслугоўваюць увагі, і патрабуюць абгаварэньня і практычнага дапасаваньня.



# ПРАКТЫКА МЕСЦ

К. Бойка

## Як выконваюцца дырэктывы партыі ў Прапойскім раёне

Прапойская партарганізацыя налічвае ўсяго 65 асоб: членаў—50, кандыдатаў—15. Па сацыяльнаму становішчу: рабочых—26,1%, батракоў—6,1%, сялян—52,5%, саматужнікаў—3%, служачых—12,3%. Жанчын у складзе арганізацыі—6 асоб. Камуністаў і камсамольцаў—12 чал. Калі разглядзець, як разьмеркоўваецца арганізацыя па займаемай рабоце, то мы будзем мець наступны малюнак: камуністаў у калгасах—3%, у індывідуальных гаспадарках—10,7%, на савецкай і каапэрацыйнай рабоце, зьвязаных з сельскай гаспадаркай—33,8 і на савецка-каапэрацыйнай рабоце, не зьвязаных з сельскай гаспадаркай—51%. Гэтыя лічбы будуць многа аб чым гаварыць далей, а зараз перайдзем да росту партарганізацыі.

Пытаньне росту нашай партыі за лік батрацтва мае вельмі сур'ёзную значнасьць, на што паказваў XII Зьезд КПБ і Акруговая партыйная канфэрэнцыя. У Прапойскім раёне гэтую дырэктыву зразумелі вельмі кепска і нічога не рабілі для таго, каб яе выканаць; у выніку чаго арганізацыя зусім не расла. На працягу 9-ці месяцаў, пакуль АК КПБ, разглядаючы пытаньне росту па акрузе, ня ўзьдзейнічала адпаведным чынам на Райком (вынес вымову РК), арганізацыя зусім не расла, і толькі за апошнія 2—3 месяцы зроблены некаторыя крокі ў гэтым напрамку. Райкомам прынята 18 чалавек у партыю. Па сацыяльнаму становішчу прынятыя падзяляюцца: рабочых—1 чал., батракоў—5, калгасьнікаў—2, сялян-беднякоў—8, саматужнікаў—2.

Дзе прычыны гэтакага становішча з ростам партарганізацыі. Гэтыя прычыны крыюцца ў тым, што дырэктывы партыі і дырэктывы 12-га Зьезду КПБ у цэлым, асабліва аб вярбоўцы батракоў у партыю, у арганізацыі не прапрацаваны і іх не разумеюць асобныя ячэйкі. Так, у асобных парт. ячэйках, дзе прыходзілася бываць (Гайшын, Рабавічы і інш.) таварышы сумняваюцца у карысьці ад батрака, якога прымуць у партыю, часта няпісьменнага, і што будзе за карысьць ад гэтакага камуніста. Так разважаюць у асобных ячэйках. Трэба было шмат даказваць таварышам, што яны вельмі памыляюцца. Зразумела, што калі гэтакая існуе думка, то, зразумела, што ніякай работы сярод батрацтва не праводзілася, на партсходы яны не запрашаліся, у гурткі пры хатах-чытальнях не ўцягваліся. Па матар'ялах абгляду 4-х парт. ячэек, да жніўня м-ца ні на воднай ячэйцы не стаяла пытаньне аб вярбоўцы батракоў у партыю. Зразумела, што калі РК правяраў работу ячэек па выкананьню асноўных дырэктыў партыі, ён-бы сам выкрыў гэтакае становішча, але-ж ён гэтага не рабіў, у выніку чаго важнейшая дырэктыва партыі, як вярбоўка батрацтва ў партыю, засталася ня выкананай. Абсалютна нічога не рабіў у гэтым напрамку РК КСМ і арганізацыя ў цэлым, пры наліччы ў КСМ да 60-ці батракоў, у партыю прынята камсамольцаў толькі 2 чал. (1 батрак і 1 бядняк).

Якое-ж унутранае становішча арганізацыі. Што-ж мы маем у Прапойскай партарганізацыі. Вельмі слаба партыйная дысцыпліна. Так, цэлы шэраг выпадкаў, калі РК дае заданьне члену партыі паехаць у вёску па правядзеньню той ці іншай кампаніі, а ён замест выкананьня гэтай дырэктывы, едзе ў горад. Цэлы

шэраг ячэек, дзе партсходы зрываюцца па 3—4 разы з-за няяўкі камуністаў, выпадкі п'янства з боку камуністаў. Так, старшыня с/с. (Старынскага), ён-жа член партыі, напіўшыся з беспартыйным, пачаў апавядаць сялянам антысэміцкія анэкдоты. Шмат выпадкаў несваячасовай уплаты членскіх узносаў, пасыўнасьць на партсходах, а асабліва пасыўнасьць у штодзеннай рабоце па правядзеньню лініі партыі. Асобныя работнікі з райактыву вельмі мала выяжджаюць на вёску, і РК на гэта ніяк не рэагіруе. РК, замест таго, каб павесьці з падобнымі зьявішчамі барацьбу і трэбаваць ад кожнага камуніста выкананьня партдырэктыў, выходзіў зусім з неправільнай устаноўкі: „ці ня будзе гэта зажымам самакрытыкі і камандаваньнем, калі каго-небудзь прыцягваць да адказнасьці за невыкананьне партдырэктыў". Вось гэтая баязьнь зажыму самакрытыкі прывяла да таго, што ў арганізацыі зусім упала партыйная дысцыпліна. РК не зразумеў, што ў шырокая самакрытыка мае на ўвазе яшчэ большую партдысцыплінаванасьць і здольнасьць да выкананьня партыйных дырэктыў. РК не разумеў, што у той арганізацыі, дзе як належыць разьвіта самакрытыка, там павінна быць на належнай вышыні партыйная дысцыпліна.

У арганізацыі існаваў сапраўдны зажым самакрытыкі. Так, камуністу ў той час—Майстраву—за тое, што ён падаў заяву ў АКК на Райком, апошні паставіў на від (пратакол Бюро РК ад 4 красавіка 1929 г.).

Рашэньні 16-й партканфэрэнцыі ў арганізацыі не прапрацованы. Разуменьня значэньня правага ухілу ў частцы камуністаў няма. У практычнай рабоце меў месца цэлы шэраг скрыўленьняў клясавае лініі (Сампрамкаапэрацыя, Сельг.-Гасп. Крэдыт. і інш.), нежаданьне камуністаў ісьці ў калгасы, выпадкі размоваў у асобных ячэйках (Гіжэнская) аб адсутнасьці глебы для калектывізацыі,—гэтая думка мае свой адбітак ня толькі ў Гіжэнскім с/с., дзе няма ніводнага калгасу, але і ў іншых с/с. раёну, пры наліччы цэлага шэрагу правых настрояў і ўсялякіх іншых балючых зьявішчаў.

Райком партыі павінен быў ударыць па гэтым, як сьлед, а на самай справе арганізацыя не мабілізавана ў дастатнай меры ў гэтым напрамку. Гэта будзе відаць з наступных фактаў: на апошнім перавыбарчым партсходзе, дзе трэба было ва ўсёй шырыні заварстрыць пытаньне аб канкрэтнай барацьбе з праявамі правага ухілу і прымірэнцтвам, гэтага зроблена ня было. У рэзалюцыі, па справаздачы РК апошнім пунктам запісана: „у далейшым РК не паслабляць барацьбы з правай небясьпекай"—і толькі. А калі мы запыталі, чаму гэты важнейшы пункт рэзалюцыі запісан апошнім, то ў РК адказалі: „забылі аб ім і толькі ўспомнілі пры зацьверджаньні рэзалюцыі, ну, і запісалі апошнім".

Гэта лішні раз пацьвярджае нам тое, што партарганізацыя ня была мабілізавана для барацьбы з правым ухілам. Таксама ў рэзалюцыі РК на тым-жа сходзе вельмі не яскрава запісан пункт аб уваходжаньні камуністаў у калгасы, у якой абсалютна нічога не сказана аб праяўленьні ініцыятывы з боку камуністаў і камсамольцаў па арганізацыі калектыву. Такім чынам, напрошваецца вынік, што камуністы і камсамольцы ня толькі не праяўляюць ініцыятывы па арганізацыі калектываў, але зьяўляюцца тормазам у арганізацыі апошніх. Зразумела, што гэтакі вывад у адносінах да ўсёй парт. і камсамольскай арганізацыі зрабіць нельга, але-ж асобным ячэйкам і асобным т-шам гэтакі вывад зрабіць можна і неабходна.

### Як абстаіць справа з уздымам і калектывізацыяй с/г. у раёне.

Дырэктыва партыі аб большым уздыме і ўвазе калектывізацыі с/гасп. у раёне не атрымала павіннага адбітку; так, ні ў партыйных, ні ў савецка-каапэрацыйных арганізацыях да гэтага часу няма пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў раёне, у сілу чаго ня было сканцэнтравана ўвагі партыйных, савецкіх і каапэрацыйных арганізацый у гэтым напрамку. Правядзеньне аграмінімуму, як аднаго з мэтадаў уздыму сельскай гаспадаркі, прайшло без дастатковай увагі мясцовых арганізацый. Так, аграмінімум прынят у 10—15% гаспадарках раёну.

Сродкі, якія ўкладваюцца па лініі с/г. крэдыту, дзякуючы таму, што яны ішлі зачастую не па прызначэньню, не

давалі таго эфекту па пад'ёму бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, які патрэбен быў. Пасяўная плошча ў 1929 г. пад зернявымі культурамі супроць 1928 г. павялічылася на 1,8%, пад травамі—на 0,2%, стабілізавалася плошча пад тэхнічнымі культурамі і паменшылася плошча ў 1929 г. супроць 1928 г. пад бульбай на 0,45%. У галіне калектывізацыі да гэтага часу вельмі мала рабілася, у выніку чаго раён стаіць на 15-м месцы ў акрузе па калектывізацыі. На час абсьледваньня ў раёне маецца 18 с/г. калектыўных адзінак, прычым толькі 7 адзінак можна лічыць, хаця і дробнымі, а астатнія 11 адзінак—таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі, як іх ўпаўне правільна назвала „Савецкая Беларусь" у адным з сваіх артыкулаў, „лжэ-калгасамі", бо яны арганізоўваліся заможнымі з мэтай укрыцьця ад падаткаў, атрыманьня лепшай зямлі і г. д. На самай-жа справе ў іх нічога калектыўнага няма. Зараз—калі паўстала пытаньне аб пашырэньні іх, то некаторыя з іх („Труженик", „Передовик") гэтаму вельмі супраціўляюцца. На час абсьледваньня ў калектывах толькі 2 камуністы і 5 фармальна запісаўшыхся т-шы, да і то асобныя з іх пагаварваюць уехаць у горад. Ня лепш абстаіць справа з камсамольцамі: з 240 камсамольцаў у калектывах толькі 15 чалавек. Стаўка на буйны калгас і ўся ўвага калектывізацыі ў раёну ня ставілася і гэта работа ішла самацёкам. Вось чаму Прапойскі раён так адстаў у галіне калектывізацыі. Зараз, калі партарганізацыя ўзялася за працу, калі канцэнтруецца ўвага грамадзкасьці вакол гэтых пытаньняў, ужо арганізован калгас да 1000 *га*, што ва ўмовах Прапойшчыны вельмі вялікае дасягненьне.

У галіне вытворчага каапэраваньня—мы ў раёне маем 21% каапэраваных усіх гаспадарак. Па сацыяльнаму становішчу—беднаты 35%, серадњакоў—55% і заможна-кулацкіх элемэнтаў—10%. Гэтыя лічбы гавораць за нездавальняючае становішча ў сацыяльных адносінах гэтай работы, мала беднаты і значны процант кулацка-заможных элемэнтаў, прычым апошнія сплош і радам адыгрываюць кіруючую ролю ў вытворчых аб'яднаньнях. Былі выпадкі ў асобных аб'яднаньнях, калі атрымліваемыя крэдыты скарыстоўваліся не па прызначэньню. Парткіраўніцтвам гэтая галіна працы незабясьпечана.

Як працуе каапэрацыйная сетка, у першую чаргу, с/г. крэдытная. У гэтай галіне ў раёне мела месца цэлы шэраг ганебных зьявішчаў. Так, у Рабавіцкім Крэдытным т-ве вызначаны фонд па каапэраваньню і крэдытаваньню беднаты выкарыстоўваўся не па прызначэньню і не для беднаты, а гэтыя грошы былі выдадзены пад вэксалі служачым, на воўначоску, на швэйныя машыны кулацкім элемэнтам. Такім чынам, было выдадзена да 2.000 руб. Наогул, у гэтым т-ве лінія партыі была скрыўлена поўнасьцю, а з боку РК і РВК на гэта не рэагавалася, і толькі пасьля ўзьдзейнічаньня з боку АК КПБ на Райком, апошні прыняў сякія-такія меры аздараўляючага парадку.

Дырэктывы партыі аб тым, каб усё было зроблена па большаму забесьпячэньню беднаты, а таксама па большай дапамозе ў разьвіцьці бядняцкай гаспадаркі, выкананы недастаткова. Побач з гэтым с/г. крэдыткаапэрацыя амаль-што не займалася пытаньнямі калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня. Калі да гэтага дадаць, што па лініі Сампрамкаапэрацыі мела значнае месца выкрыўленьне клясавай лініі, як выдача кулакам да 7% крэдыту, усё гэта гаворыць аб значным скрыўленьні клясавае лініі ў раёне. Пагэтаму вельмі сур'ёзна стаіць задача перад партыйнай арганізацыяй аб найхутчэйшым выпраўленьні клясавай лініі. У галіне спажывецкай каапэрацыі—трэба сказаць таксама аб тым, каб бедната лепш забясьпечвалася і больш была прыцягнута да каапэрацыйнай работы, а на самай справе бедната каапэравана толькі на 52,2%, серадняк—на 60% і заможныя—на 86%. Такім чынам, роля беднаты і ў спажывецкай каапэрацыі не адпавядае тым задачам і дырэктывам, якія ставіла партыя.

Побач з гэтым, трэба сказаць, што ў адносінах да абслугоўваньня бядняцка-серадняцкай часткі вёскі з боку Спажывецкай каапэрацыі справа абстаіць далёка нездавальняючы, хаця-б у тым, што Праўленьне нічога ня робіць пазьнішчэньню чаргі; так, у такім маленькім мястэчку, як Прапойск, бываюць вельмі

вялікія чаргі; ня лепш справа абстаіць і ў вёсцы. Былі выпадкі, калі ў асобных сельскіх крамах адпускаўся адзін сорт тавару, прыкладна, газу ў адзін дзень, на другі дзень—соль, на трэці—мануфактура і г. д., і селяніну, для таго, каб атрымаць неабходныя яму тавары, прыходзілася затрачваць 3—4 дні. Справа з выдачай мануфактуры ў цэлым шэрагу сельскіх крам абстаіць нездавальняюча. Так, былі выпадкі, калі яе атрымлівалі кулакі і адмаўлялі беднаце. Усё гэта гаворыць за тое, што неабходна прыняць рашучыя крокі да выжыцьця падобнага становішча.

Побач з гэтым неабходна сказаць аб прыватным гандляру ў Прапойскім раёне. Гандляр-перакупшчык афіцыяльна з рынку ўцёк, здаў патэнт і інш. і, як вынік гэтага, абкладаемы прыватны гандлёва-прамысловы сэктар—яго абарот зьменшыўся з 369.200 р. да 1927-28 г. да 182.900 р. у 1928-29 г., але-ж гэта бачымасьць афіцыяльна для фінворганаў, а на самай справе гандляр-перакупшчык-прадпрынімацель перайшоў у падпольле, купляе па дварам, за мястэчкам, па заезжым дамам і г. д. Кепска тое, што за гэтым вельмі слаба назіраюць фінворганы, несваячасова прымаюць меры ў сэнсе іх абкладаньня.

Ня лепш справа абстаіць з індывідуальным абкладаньнем. У час кампаніі індывідуальна-кулацкія гаспадаркі ня ўсе былі выяўлены і абкладзены, і толькі зараз калі мясцовыя арганізацыі ўзяліся за гэту справу, то ўжо маюцца дадаткова выяўленыя кулацкія гаспадаркі. Трэба сказаць, што кулаку дастатковага адпору да гэтага часу не давалася, дзякуючы чаму, ён меў значны ўплыў на бядняцка-серадняцкія колы і ў цэлым шэрагу месц замацоўваў свае пазіцыі. Зразумела, што калі параўняць гэтакая становішча з маючыміся дырэктывамі партыі аб наступленьні на капіталістычныя элемэнты, і ня толькі наступленьне, але і выкарчоўваньне карэньняў капіталізму, дык, зразумела, перад Прапойскай парт-арганізацыяй стаіць надзвычайна адказная задача, для выкананьня якой неабходна сканцэнтраваць усе сілы парт-арганізацыі, мабілізуючы бядняцка-серадняцкія колы вёскі, асабліва зараз, у момант жорсткай клясавай барацьбы, работа з батрацтвам і беднатой набывае асаблівае значэньне. Трэба, каб батрацтва і бедната былі зьядналы, добра знаёмы былі з тымі асноўнымі задачамі партыі, якія зараз перад намі стаяць, бо на самай справе работа з беднатой і батрацтвам у раёне пастаўлена кепска, аб чым з асаблівай сур'ёзнасьцю падкрэсьлівалася на Бюро АК.

Слаба працуюць сельбатрачкомы. Выпадкі, калі асобныя старшыні Сельбатрачкомаў, як гэта было з Ржаўскім, замест абароны інтарэсаў батрака, гэты Сельбатрачком падпаў пад уплыў кулакоў і праводзіў іхнюю лінію, у выніку чаго батрака Мішурава—старшыня Сельбатрачкому Ганчароў прагнаў і ня стаў з ім гаварыць, і спэц. адзежа гэтаму батраку да гэтага часу ня выдадзена. Партыйныя і камсамольскія ячэйкі работай сярод батрацтва і беднаты займаюцца мала. Бедната і батрацтва на партсходы прыцягваецца кепска.

У галіне культурнай работы, палітасьветнай—справа абстаіць у раёне вельмі кепска. Нездавальняюча працуюць хаты-чытальні і асабліва кепска працуе раённы нардом. Культурныя сілы, якія маюцца ў мястэчку да работы ў нардоме не прыцягнуты. Інтэрнацыянальнае выхаваньне бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі пастаўлена не на належную вышыню, а адгэтуль выпадкі антысэмітызму, выпадкі нацыянальнай варожасьці і г. д.

Будзем спадзявацца на тое, што, сапраўды, Прапойская партарганізацыя зробіць усё, каб зьнішчыць усе тыя прарывы ў рабоце, якія адзначаны ў артыкуле і гэтым самым пашырыць і палепшыць працу ў раёне, чым будзе дасягнута асноўная задача нашай партыі—перабудова вёскі на сацыялістычных пачатках.

Р. Шпэктараў

# Як мы арганізавалі шэфства рабочых над Наркамгандлем

Разгортваньне барацьбы з бюрократызмам высунула на абвестку дня новую форму прыцягненьня шырокіх мас да гэтай справы. Новай формай зьяўляецца шэфства рабочых над установамі дзярж-апарату.

У Менску рабочыя швейнай фабрыкі „Кастрычнік" першыя праявілі сваю ініцыятыву, узяўшы шэфства над Наркамгандлем.

Мы перад сабой паставілі наступныя задачы:

1) вывучэньне структуры і канкрэтных задач кожнай групы і ўсяго Наркамата;

2) праверка выкананьня апаратам дырэктыў партыі і ўраду пад кутком погляду мабілізацыі рабочых на барацьбу за правядзеньне клясавай лініі, барацьбы з бюрократызмам, валакітай і інш.;

3) прыняцьце практычнага ўдзелу ў рабоце паасобных груп Наркамгандлю шляхам уцягненьня рабочых да прапрацоўкі і праверкі асобных пытаньняў, прыцягненьня рабочых да абгляду гандлёвых устаноў і г. д. Правесьці падрыхтоўчую работу да чысткі апарату Наркамата.

Для ажыцьцяўленьня пастаўленых задач рабочыя на сваіх цэхавых сходах вылучылі рабочыя брыгады па 8 чал. ад кожнага цэху. Усе групы Наркамгандлю разьмеркаваны паміж цэхамі фабрыкі так, што 1 цэх абслугоўвае 2 групы. Такім чынам, мы вылучылі па 8 рабочых на 2 групы, а ўсяго 32 рабочых брыгадзіры.

Рабочыя брыгадзіры праводзяць штодзенную працу на падставе паказаных задач. Але гэтыя задачы вельмі агульныя, чаму мы сумесна з ячэйкай Наркамгандлю распрацавалі больш практычны плян працы рабочых брыгад на кароткі час. Практычны плян уключае ў сабе наступнае:

1) падрабязнае азнаямленьне рабочых-брыгадзіраў з работай Наркамгандлю праз правядзеньне сумесна з ячэйкай і МК самаправеркі выкананьня дырэктыў партыі і вышэйстаячых органаў апаратам Наркамгандлю за апошні час;

2) вылучэньне і падрыхтоўка 8 рабочых у якасьці штатных пам. інспэктароў Наркамгандлю. Апошнія вядуць практычную работу па заданьням інспэктароў паасобных груп куды яны прымацованы;

3) прыцягненьне рабочых фабрыкі да падрыхтоўчай працы па чыстцы Наркамгандлю (выяўленьне бюрократаў-валакітчыкаў, якія скажаюць клясавую лінію і г. д.);

4) падрыхтоўка ня менш 3—4 рабочых да вылучэньня ў апарат Наркамгандлю на працягу 2—3 месяцаў. У гэтым напрамку мы і праводзім пакуль нашае шэфства над Наркамгандлем.

Галоўным недахопам у нашай рабоце зьяўляецца тое, што 1) органы РСІ мала зацікавіліся вопытам шэфства і ня кіруюць гэтай работай, ня гледзячы на пастанову апошняга Пленуму ЦКК ВКП(б) па гэтаму пытаньню;

2) перагружанасьць апарату Наркамгандлю не дае магчымасьці атрымаць рабочым-брыгадзірам штодзенную дапамогу ў іх рабоце. Ня ўсе рабочыя-брыгадзіры атрымалі практычныя заданьні (за выключэньнем паездкі 2 рабочых для праверкі хода ільназагатовак). Нарком нават не правёў ніводнай гутаркі з брыгадзірамі;

3) Няма дастатковай яснасьці ў пытаньні арганізацыйных форм кіраўніцтва шэфствам па прадпрыемствах. Мы

пакуль вылучылі аднаго ўпаўнаважанага па шэфству (які практычна ажыцьцяўляе ўсе рашэньні па шэфству), які падтрымлівае сувязь паміж брыгадзірамі і Наркамгандлем. Прафсаюзныя ворганы стаяць яшчэ ў баку ад гэтай работы. Уся цяжкасьць ляжыць на парткалектыве. Неабходна зрабіць шэфства над дзяржапаратам справай усіх рабочых. Тут няма ніякага пералому. Менскія прадпрыемствы належнага прыкладу не паказваюць. Такія ўстановы як ВСНГ, Наркамфін ня маюць шэфаў.

ЦКК—РСІ і яе органы павінны пачаць кіраваць работай па шэфству над дзяржапаратам, шырока выкарыстоўваючы вопыт шэфства і ўсе дзелавыя заўвагі і прапановы рабочых. Неабходна ўстанавіць належную сувязь паміж РСІ і рабочымі-брыгадзірамі, арганізуючы рэгулярны кантроль за выкананьнем паказаных заўваг рабочых установам, над якімі яны шэфствуюць. Прафсаюзы павінны стаць арганізатарамі гэтага шэфства, вылучыўшы спэцыяльныя аб'яднаныя камісіі з прадстаўнікоў фабкому і мясцкому падшэфнай установы. Прафсаюзы павінны ўстанавіць рэгулярную справаздачнасьць падшэфных устаноў перад рабочымі і фабрык перад служачымі.



## ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ

З № 2 часопісі „Партыйнага Работніка" ўсім падпісчыкам дасылаецца дармовым дадаткам „Рэзолюцыі студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б". З гэтай прычыны некаторыя артыкулы і адказ на запытаньне, дасланае т. Галіцкім у АПАД ЦК КП(б)Б, будуць зьмешчаны ў № 3 „Партыйнага Работніка".

РЭДАКЦЫЯ.

# АБ СУЦЭЛЬНАЙ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ БССР
## і правядзеньні сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 г.

*(Мэтадычныя паказаньні)*

Распрацоўка гэтай тэмы павінна зьявіцца працягам папярэдняй аб выніках і далейшых задачах колгаснага будаўніцтва (пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) [1]). Кіраўніку неабходна напомніць асноўныя палітычныя ўстаноўкі, увязаўшы гэтыя пастановы з апошнімі пастановамі партыі аб ліквідацыі кулацтва, як клясы, пастановы лістападаўскага пленуму ЦК з тым, каб у гэтай гутарцы спыніцца на конкрэтных і практычных задачах, што вызначаны студзеньскім пленумам для правядзеньня суцэльнай колектывізацыі БССР і веснавой с.-г. кампаніі.

Гутарка ў кожнай ячэйцы павінна быць шчыльна ўвязана з умовамі, у якіх ячэйка працуе. Аснаўныя палажэньні рэзолюцыі пленуму неабходна ілюстраваць мясцовым матар'ялам. Гэта асабліва важна (акрамя лепшага ўсваеньня гутаркі) яшчэ і таму, што пры прапрацоўцы тэмы будзе выяўлена конкрэтна, што зроблена данай ячэйкай і іншымі ўстановамі, якія ячэйкі аб'ядноае па практычнаму ажыцьцяўленьню пастаноў пленуму. Адсюль будзе большая яснасьць у пытаньні аб тым, на якіх галоўных вучастках неабходна групаваць увагу ячэйкі.

Пасьля агульна-палітычнай устаноўкі, якая вызнач на лістападаўскім пленумам ЦК УсеКП(б) і студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б і ў апошніх асобных пастановах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, трэба спыніцца на галоўных практычных пастановах пленуму ЦК КП(б)Б.

[1] Гл. „У дапамогу прапагандыстаму і агітатару“, вып. I.

### Асноўныя моманты

1. Рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі знайшлі сваё выражэньне ў масавым колектыўным руху. Дробная таварная гаспадарка ўступіла ў працэс соцыялістычнай перабудовы. За бядняцкімі гаспадаркамі ў калгасы рушылі серадняцкія гаспадаркі, пераканаўшыяся ў колектыўных формах земляробства. Тэмпы колектывізацыі перавысілі ўсе нашы плянавыя меркаваньні. Устаноўка пленуму на поўную колектывізацыю ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР у 1931 г.

2. Посьпехі соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі, шпаркі рост калгасаў даюць поўную мажлівасьць „ударыць па кулацтву, зламаць яго супраціўленьне, зьліквідаваць яго, як клясу і замяніць яго (кулака) вытворчасьць—вытворчасьцю саўгасаў і калгасаў“ (Сталін). Устаноўка пленуму на катэгорычную забарону прымаць кулацтва ва ўсе віды колектыўных аб'яднаньняў і рашучая ачыстка калгасаў ад кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў.

3. Рашучая барацьба КП(б)Б і яе ЦК з скажэньнямі клясавай лініі ў зямельнай політыцы (мінулая кіраўніцтва НКЗ—прышчэпаўшчына), барацьба з прававухілісцкай лініяй у гэтым пытаньні, спрыялі росту масавай колектывізацыі ў БССР.

4. Вынікі выкананьня першага году пяцігодкі, цалкам і поўнасьцю пацьвёрдзілі правільнасьць усёй політыкі партыі і канчаткова даказалі поўнае політычнае банкроцтва правых ухілістых,

позыцыя якіх зьяўляецца ня чым іншым, як выразам націску капіталістычных элемэнтаў і панікай перад клясавай барацьбой.

5. Выключная важнасьць веснавой с.-г. кампаніі і яе гаспадарча-палітычнае значэньне для ўсёй справы соцыялістычнага будаўніцтва краіны. „Гэта будзе сапраўдная бальшавіцкая пасеўная кампанія, якая можа даць рашаючую перамогу калгасам у СССР“ (Молатаў). Устаноўка пленуму на тое, каб плошчу зямлі пад калгасамі давясьці да канца году ня менш, як да 50 проц. усёй сельска-гаспадарчай плошчы і ня менш 35 проц. яравога кліну.

Асноўным стрыжнем усёй веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі будзе далейшае паскоранае пашырэньне і якаснае ўзмацненьне соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.

Практычнымі пытаньнямі, да якіх неабходна прыкаваць увагу слухачоў, зьяўляюцца наступныя пытаньні:

1) Мэтады і формы клясавай барацьбы. Выкарыстоўваньне кулацтвам больш адсталых бядняцка-серадняцкіх мас—жанчын і нацменшасьцяй.

2) Неабходнасьць узмацненьня палітычнай ролі батрацка-бядняцкага ядра, стварэньне ўзмацненьня бядняцка-батрацкіх груп.

3) Якаснае ўзмацненьне калгасаў і перавод іх у больш высокія колектыўныя формы (абагуленьне сродкаў вытворчасьці, рост непадзельных капіталаў, стварэньне насенных фондаў і інш.).

4) Неабходнасьць пашырэньня засеву тэхнічных культур і мерапрыемствы па рэканструкцыі жывёлагадоўлі.

5) Неабходнасьць поўнага выкананьня агрыкультурных мерапрыемстваў.

6) Пасьпяховасьць калгаснага будаўніцтва пры ўмове непасрэднага кіраўніцтва з боку партыі і пролетарыяту (пасылка рабочых на сталую работу ў калгасы, рабочыя брыгады, палепшаньне партработы ў калгасах і інш.).

7) Падрыхтоўка кадраў для калгаснага будаўніцтва.

8) Узмацненьне ролі саветаў у сэнсе поўнага і першачарговага абслугоўваньня калгасаў і апоры на іх.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ.


Артыкул Молатава „Аб калгасным руху“—„Бальшавік“. № 22.

Пастановы Савнаркому БССР і СССР.

Пастановы пленуму ЦК КП(б)Б (па дакладу т. Рачыцкага).

Рэзалюцыя лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б).

Пастанова СНК аб жывёлагадоўлі.

Даклад т. Якаўлева („Праўда“, 24-І 1930 г.).

Даклад т. Гея на Менскім партактыве („Зьвязда“, студзень, 1930 г.).

Пастановы ЦК УсеКП(б)Б і ЦК КП(б)Б.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## КАВАЛЕРЫЙСКІМ ГАЛОПАМ

**Рэканструкцыйны пэрыяд і задачы культ-масавай работы на прадпрыемстве.** *С. Гольдбрайх.* **Выданьне ЦСПСБ Менск, 1930 г.**

Пытаньне аб прыстасаваньні культурна-масавай работы да ўмоў сацыялістычнай рэканструкцыі, надта важнае і сваячасовае. Нам патрэбна карэнная перабудова ўсёй сыстэмы культурна-масавай работы і акрамя палепшаньня якасьці работы (што асабліва важна) пасіленьне яе тэмпаў.

Адсюль зусім зразумела вялікая патрэба ў кніжках па гэтаму пытаньню. Як перабудоўваць работу, дзе пакарыстацца вопытам і якім. Вось пытаньне з якім мы і падыходзім да рэцэнзуемай кніжкі.

На вялікі жаль станоўчага адказу ад кніжкі Гольдбрайха атрымаць нельга: Аўтар ўзяўся на 80 старонках высьвятліць цэлых 8 пытаньняў і таму атрымаўся кавалерыйскі наскок—„аб усім пакрыху“. Возьмем для прыкладу разьдзел аб культурна-масавай рабоце і бесьперапынным вытворчым тыдню. Аўтар правільна сьцьвярджае, што ў абгаварэньне гэтага пытаньня неабходна больш ўцягваць рабочых, але не дае грунтоўных практычных прапаноў. Разьдзел (ён займае крыху больш як 3 старонкі) надта павярхоўны.

Апрача некаторых месц кнігі (напр., аб чырвоных кутках), якія больш-менш распрацаваны добра і сьведчаць аб добрым знаёмстве аўтара з сапраўдным становішчам работы на прадпрыемствах, ёсьць „пэрлы“, якія робяць некаторыя месцы кнігі, ня толькі непатрэбнымі і блытанымі, але нават і шкоднымі.

Пералічым па парадку „мудрствования“ аўтара.

1. Аўтар піша аб ролі газэты ў масавай рабоце і зусім правільна спыняецца на неабходнасьці называць па прозьвішчах бюрократаў, гультаёў і інш. супроць каго трэба мабілізаваць пралетарскую грамадзкасьць. А вось далей:

„Прозьвішчы патрэбны для таго, каб няправільна ашальмаваны таварыш меў магчымасьць апраўдацца“ (стар. 43).

Вось дык „установка?.

2. Аўтар супроць арганізацыі на прадпрыемствах самастойных дробных бібліятэк. Для доказу прыводзіцца цытата з пастановы Прэзыдыуму ЦСПСБ па гэтаму пытаньню. Ня будзем спрачацца. Гэта правільна, але ня зусім ясна распрацавана ў кніжцы. Аднак, у шэрагу матываў супроць дробных бібліятэк ёсьць і такая „філёзофія“.

„Урэшце сродкі будуць выдаткавацца больш мэтазгодна, бо мы ведаем, як пад уплывам агентаў розных выдавецтваў у завадзкіх бібліятэках ляжаць без усякага руху вельмі каштоўныя выданьні Леніна, Плеханава, Энгельса, альбомы розных гатункаў і да т. п. (46 стар.).

Таварышы бібліятэкары паслухайце Гольдбрайха, не падпадайце пад уплыў „агентаў розных выдавецтваў“ і тады каштоўныя выданьні Леніна, Плеханава, будуць хутчэй рухацца да чытача. І гэта называецца сур'ёзныя разважаньні.

3. А вось трынаццаты разьдзел: „нацработай, беларусізацыя і інтэрнацыянальнае выхаваньне рабочых на прадпрыемствах“. Аўтар піша аб неабходнасьці будаваць культуру „нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу“ і напамінае:

„ . . . саюз і фабзаўкомы не жадаюць ведаць ніякага „ражна“ і часам займаюцца самым звычайным „ругацельствам“ (55 стар).

Аўтар вельмі „самакрытычна“ настроены і піша: (выбачайце за доўгую цытату).

Што выявіла справа „Баршай“ і шэраг іншых судовых працэсаў антысэмітаў?.

Гэтымі пытаньнямі інтэрнацыянальнага выхаваньня ніхто не займаўся. Ніхто не растлумачваў рабочым шырокага значэньня супольнай клясавай барацьбы рабочых беларусаў, палякоў, яўрэяў, супроць царскага рэжыму, супроць кераншчыны; не ўспаміналі аб крыві зьлітаўшай рабочых усяго сьвету ў барацьбе з капіталам; аб крыві на палёх старай Расеі за стварэньне і абарону СССР свабоднага саюзу ўсіх нацыянальнасьцяй. У той час, калі іменна на гэтым нам трэба было выхоўваць усю масу, аб гэтым маўчалі.

Што цяпер выяўляюць розныя праверкі кіраўнічых партыйных і прафэсійных органаў, нацкамісій у гэтай справе? Зноў агідны непарадак; зноў „адзіная“ мова і толькі дзе-ні-дзе мізэрныя спробы што-небудзь зрабіць.

Работа, праўда сказаць яшчэ не пачалася, а таму яе трэ' зараз-жа пачаць (56 стр.).

„Засамакрытыўся“ аўтар аж да паклёпу. Нарысы з „птичьего полета“.

Мы лічым, што тут аўтар „перагнуў“ занадта і па сутнасьці змазаў усе нашы дасягненьні па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых, па правядзенью беларусізацыі. Праўда, ўсё гэта не занімае пытаньня аб неабходнасьці ўзмацненьня і найбольш якаснага палепшаньня гэтай работы, але-ж ня можна „до безчувствия“. Аўтар толькі між іншым (дзякуй хоць за гэта) зазначае:

„Ня трэ' забывацца таксама і аб штодзенным інтэрнацыянальным выхаваньні рабочых, скарыстоўваючы для гэтага кожнае масавае мерапрыемства“.

4. Аўтар злуецца на шэфскую работу, ён агітуе за яе перабудову (правільна) аўтар піша:

Успомніце гэтыя непатрэбныя страты на выезды з дакладчыкам, аркестрам, з гурткамі, з куплетамі выезды, якія успрыймаліся як дачныя забаўкі. У лепшым выпадку былі закуплены кніжкі, выпісваліся газэты і г. д. Сяляне, часамі, успрыймалі гэтыя выезды, як капрыз гарадчаніна „вядома сваявольства; на што гэта“ і г. д. (60 стр.).

Фабзаўком і далей стаяў у баку выдаючы час-ад-часу некалькі рублёў на гэту справу. Гэтым

даваўся прыклад рабочай масе, якая не мабілізавалася каля задач змычкі, а заставалася пасыўным гледачом.

Адным словам поўная „переоценка ценностей“ і зусім непатрэбная лаянка.

З якога гэта часу рабочая маса „не мабілізавалася каля задач змычкі“, чым-жа вытлумачыць актыўную ролю рабочых у справе калектывізацыі вёскі, няўжо-ж не вядома тое, што рабочыя брыгады ў мінулым годзе правodзілі значную работу па правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі, а ўспомніце рабочыя брыгады на перавыбарах сельсаветаў дзе рабочыя зьяўляліся „інструктарамі клясавай барацьбы“. Няўжо гэта аўтару невядома, і калі зараз паўстала пытаньне аб вытворчай змычцы, дык гэта тлумачыцца зусім ня тым, што шэфская работа была такой дрэннай, як гэта здаецца аўтару.

5. Аўтар, бяручыся ахапіць вялікую колькасьць пытаньняў, не абмінае і барацьбы з п'янствам. Неабходная рэч. Але ці не апашленьнем і вялікім зьніжэньнем прынцыповай важнасьці барацьбы з шавінізмам нясе ад наступных радкоў:

„Гарэлка стаіць перашкодай на шляху да культурнай рэволюцыі, гарэлка зацямняе клясавую сьвядомасьць рабочых і гарэлка абуджае ў клясава-несьвядомых подлыя, зьвярыныя інстынкты *і таму больш усяго праяў антысэмітызму, шавінізму здараецца сярод п'яных*. (72 стар.)[1]).

Думаем, што так аўтар змазвае клясавую сутнасьць антысэмітызму. Па рацэпту „доктара“ Гольдбрайха зусім лёгка змагацца з антысэмітызмам і іншымі шавінізмамі. Мы прызвычаіліся разглядаць барацьбу з антысэмітызмам, як барацьбу з клясавым ворагам, які пад гэтай маскай часта выступае. Нам знаёма формула „антысэмітызм зброя контррэволюцыі“. А вось па Гольдбрайху выходзіць інакш.

Ня будзем спыняцца на асобных дробных недахопах кніжкі, думаем, што вышэйпаказанага хопіць для таго, каб кніжку „Рэканструкцыйны пэрыяд і задачы кульмасавай работы на прадпрыемстве“ ня раіць культмасаваму працаўніку.

**М. Хмуры.**

P. S. Між іншым чамусьці ня вызначаецца належнага месца пытаньням вытворчай асьветы рабочых. Ва ўсёй сыстэме культмасавай работы гэтаму пытаньню павінна быць вызначана вялікая ўвага.

**М. Х.**

[1]) Падкрэсьлена намі (*М. Х.*).

---

## Паступілі на рэцэнзію ў рэдакцыю наступныя кнігі

### Государственное издательство РСФСР

1. **X Пленум Исполкома Коминтерна.**
**Выпуск 1-ый:** Международное положение и задачи Коммунистического Интернационала. 1929 год, тираж 10.000, цена 2 рубля, 460 стр.
2. **Выпуск 3-ий:** Экономическая борьба и задачи компартии. 1929 год, тираж 10.000, цена 90 коп., 205 стр.
3. **Г. Гюнтр:** Международный меньшевизм (очерк структуры и идеологии современней социал-демократии). 1930 год, тираж 10.000, цена 50 коп., 103 стр.
4. **Г. Реммеле:** На пороге нового революционного под'ема в Германии. 1930 г., тир. 10.000, ц. 35 к., 94 стр.
5. **От XV С'езда ВКП(б) до XVI конференции** (сборник резолюций и постановлений). 1929 год, тираж 60.000, цена 40 коп., 287 стр.
6. **М. Литвинов:** Международное положение СССР. 1929 г., тираж 200.000 экз., цена 10 коп., 62 стр.
7. **Н. Тимофеев.** Батрачество и борьба с бюрократизмом. 1929 г., тираж 30.000, цена 12 коп., 61. стр.
8. **Д. Юрьев:** Равняйся по лучшим. 1930 г., 44 стр., цена 8 коп.
9. **А. Хавин:** Не 5 а 4 года. 1929 год. 78 стр., цена 15 коп.
10. **Я. Левинталь:** Проценты и миллиарды. 1930 г., 16 стр. цена 3 коп.
11. **А. Хавин:** От ударных бригад к ударным цехам и заводам. 1929 г., 56 стр., 12 коп. Издательство „Прибой“.
12. **П. Сироткин:** Единоналичие и самостоятельность масс. 1930 г., 91 стр., цена 25 коп.

---

Адказныя рэдактары { **О. Конакоцін.** **А. Гаруновіч.**

## У чарговы нумар „ПАРТЫЙНАГА РАБОТНІКА“ пішэце на тэмы:

1. Як выканан промфінплян за першы квартал.
2. Барацьба са стратамі на вытворчасьці.
3. Перабудова форм і мэтодаў масавай партработы.
4. Завод на дапамогу соцыялістычнай перабудове вёскі. Новыя формы шэфскай работы.
5. Непарыўны вытворчы тыдзень. Вопыт пераходу. Як вядзецца падрыхтоўка да пераходу. Як перабудаваць партработу ў сувязі з непарыўкай.
6. Аб партыйнай вучобе.
7. Практыка колгаснага будаўніцтва.
8. Работа парт'ячэек у саўгасах і колгасах.
9. Як ідзе падрыхтоўка да веснавой пасяўной кампаніі.
10. Аб культурна-масавай рабоце і культурным абслугоўваньні колгасаў.
11. Організацыя быту і работа сярод жанчын-колгасьніц.
12. Аб ролі саветаў у кіраўніцтве колгасамі і саўгасамі.
13. Аб ступені кіраўніцтва колгасамі, коопэрацыйнымі і профсаюзнымі організацыямі.
14. Аб клясавай барацьбе вакол колгасаў і ўнутры колгасаў.

**Пішэце аб кожным новым вопыце партыйнай работы, прысылайце матэрыялы, уносьце свае прапановы, стаўце пытаньні на абгаварэньне.**